# Зьмест.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ.

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

№ 6. Чэрвень 1925 г. № 6.



## Да Ўсебеларускай агрономічнай конфэрэнцыі.

10-15 год таму назад у нас былі толькі зародкі агрономічнай працы (па быўш. Менскай губ. ў 1911 г. працавала 7 агрономаў, у 1914 г.—54). Агрономічную думку да гэтага часу формавалі самі сяляне. Яны-ж самі, як умелі, і паляпшалі сваю гаспадарку.

Цяпер-жа мы бачым масавае паляпшэньне гаспадаркі сялянствам. Гутарка аб шматпольлі, карысьці лубіну, сэрадэлі, кармовых траў не зьяўляецца новай для селяніна. Ня дзіва пачуць цяпер на вёсцы с.-г. лекцыю, убачыць кнігу ці газэту.

Наколькі шырока захоплена сялянства перабудовай свае гаспадаркі, спашлюся хаця-бы на маленькія прыклады гэтага месяцу—пры аб'езде свайго раёну працаўнікамі Смалявіцкага РВК (Меншчына) былі выпадкі, калі комісіі ў адным сельсавеце давалі да 750 пытаньняў*).

Але гэта новае жыцьцё вёскі з узрастаючай самадзейнасьцю сялянства патрабуе і больш культурных сіл-спэцыялістых. Сярод іх асаблівую ўвагу павінна зьвяртаць на сябе праца вучастковага агронома. Напэўна ў раёне няма ніводнае комісіі, сходу, кампаніі, дзе агроном ня прымаў-бы ўдзел. Наш агроном ужо мае столькі абавязкаў, што і палову іх выканаць нельга. Агроном цяпер—дасьледчык, землябудаўнік, коопэратар, статыстык, лектар, культурнік і г. д.

Аднак, як ні шмат абавязкаў у агронома, ставіць пытаньне аб тым, каб ад большай часткі іх агронома звольніць, было-б недарэчна. Сучасную працу агронома ў большасьці нельга звужаць, бо яна адказвае толькі на частку самых жыцьцёвых пытаньняў нашай вёскі.

Далей-жа перабудова сельскай гаспадаркі будзе вымагаць ад агронома яшчэ большай працы, высоўваючы перад ім і новыя абавязкі. Значыць, ухіляцца ад працы нельга. Але аб гэтым і гутаркі няма. Уся гісторыя маладой савецкай агрономіі сьведчыць аб іншым. Пачынаючы з 1919-20 г., пры самых цяжкіх умовах і без усялякіх сродкаў на агрономічную працу агрономы працавалі над паляпшэньнем сельскай гаспадаркі. І вынікі ёсьць. Да агронома ўжо ідзе сялянства на параду. З кожным годам шырыцца шматпольле, кармовыя травы, занятыя папары і г. д. Напрыклад, за 6 месяцаў мінулага году ўведзена шматпольле па акругам—

| | | | |
|---|---|---|---|
| Барысаўскай | на 4002 дзес. | Віцебскай | на 3651 дзес. |
| Магілеўскай | „ 32813 „ | Калінінскай | „ 4136 „ |

Або: за вясну гэтага году ў Мазырскай акрузе павялічаны засеў—лубіну на 374,5 проц. (2373 дзес.), выкі—129 проц., сэрадэлі—112,3 проц., канюшыны—164,1 проц., корнеплодаў на 300 проц.

*) Гл. „С. Б.“ за 17—VI-25 г. „Тварам да вёскі“ М. Нікановіч.

Аднак, у справе аграномічнай дапамогі вёсцы шмат чаго трэба і дадаць. Напрыклад, толькі нядаўна павялічана пэнсія агрономам. Да гэтага часу яна была вельмі мізэрнай (31 руб. у мес.). Часта агроному давадзілася весьці поўгалоднае жыцьцё ці лезьці ў даўгі, хадзіць па раёну пяхотам, цягаючы на сьпіне сьветавы ліхтар і г. д.

Павялічэньне-ж пэнсіі агроному дазволіць яму стварыць лепшыя ўмовы жыцьця і працы, а таксама і прыцягне да вёскі сьвежыя агрономічныя сілы.

Падругое, уся праца агронома павінна знаходзіць і больш спрыяючыя ўмовы. Аб гэтых умовах павінны думаць усе працаўнікі раёну і вёскі. Трэба памятаць, што агроном у сваёй працы робіць агрономічны ўплыў, як на гаспадара-перадавіка, так і на цэлыя вёскі. Ён-жа (агроном) тлумачыць і ўсе крокі Савецкай улады па адбудове сельскай гаспадаркі.

Загэтым, каб праца агронома не звужалася, а, наадварот, разгортвалася шырэй і паўней здавальняла с.-г. патрэбы вёскі, трэба лічыць сваячасным на кожным вучастку мець мо' двух памоцнікаў агронома. Летам-жа, калі сялянам агрономічная дапамога вельмі цікава, на кожны раён было-б зусім добра пасылаць яшчэ аднаго-двух практыкантаў студэнтаў.

Зразумелая рэч, што гэтак-жа патрэбна лепшае абсталяваньне агровучасткаў і пры іх с.-г. музэяў, бібліотэк, агрогабінэтаў і г. д.

Толькі пры больш-менш спрыяючых умовах і прыліву новых сіл на вучастак агроном будзе мець час дзьве—тры гадзіны ў дзень працаваць над с-г. кнігай, часопісяй і с.-г. вывучэньнем свайго раёну. Гэта дапаможа яму лепш зразумець сувязь сельскай гаспадаркі таго раёну з рынкам і агульнай гаспадаркай рэспублікі.

Працы вучастковага агронома, як праца раённага дасьледчыка і агрыкультурніка трэба быць больш глыбокай. У такім выпадку і праца ўсёй агрономіі будзе больш карыснай. І толькі ў такім выпадку агроном у поўнай меры будзе адказаць усім патрэбнам земляробства нашай вёскі, і даваць адказы на пытаньні новага жыцьця.

Усебеларуская агрономічная конфэрэнцыя, якая склікаецца ў канцы г. м-цу, напэўна шырока абгаворыць *усе пытаньні быту і умоў працы агронома*, а гэтак-жа *і пытаньні большай сувязі агрономічнай працы з агульна-савецкім будаўніцтвам.*

**Сьц. Тупяневіч.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Выбар вучасткаў чырвонае канюшыны на насеньне.

Вялікі клопат для селяніна атрымаць сваё насеньне канюшыны. Хто ня ведае, як дорага яно каштуе! А купіўшы насеньне дзе-небудзь на старане, можна атрымаць і няўсхожае насеньне. Вось чаму вельмі добра пакідаць на насеньне сваю канюшыну. Яна дасьць насеньне ня толькі для свае гаспадаркі, але і на продаж.

Па разводцы насеннае канюшыны Беларусь можна падзяліць на дзьве часткі—паўднёвую і паўночную. У Паўночнай Беларусі, у якую ўваходзіць уся былая Віцебшчына, Аршаншчына, Магілеўшчына і часткаю Меншчына (прыблізна на поўнач ад ст. Быхава і гор. Клімавіч), насенную канюшыну гадуюць на спэцыяльна выбраных вясною вучастках. Косіцца насенная канюшына тады, як усе галоўкі стануць бурымі.

У Паўднёвай-жа Беларусі, якая складаецца з Мазыршчыны, Случчыны, Бабруйшчыны, паўднёвай часткі Магілеўшчыны і Калінінскай акругі, канюшыну на насеньне вучасткамі вызначаць ня трэба.

Тут усю канюшыну трэба скасіць у поўным цьвеце. Насенныя-ж вучасткі пакідаюцца на атаве, пасьля скосу канюшыны на сена. Дзеля таго, каб атава канюшыны высьпела, старую канюшыну трэба касіць раней (у пачатку ліпеня).

Атаву на насеньне пакідаюць заўсёды на тых вучастках, дзе канюшына з вясны была лепшай і гусьцейшай.

Канюшынная атава праз 3-4 тыдні пасьля першага скосу канюшыны разам і дружна пачынае красаваць, даючы галоўкі. Прыблізна праз месяц яны пасьпяваюць.

У паўночнай-жа частцы Беларусі на насеньне канюшыну трэба выбіраць сярэднюю; яна расьце раўней і не вылягае.

Дабываць насеньне канюшыны з атавы вельмі карысна. Тут земляроб можа атрымаць ураджай сена з усяго поля канюшыны; сена і насеннай атавы зьяўляецца вельмі добрым кормам; насеньне канюшыны бывае заўсёды чыстым (шкодныя травы ня могуць пасьпець разам з атавай) і урэшце, на насеньне можна пакінуць усе добрыя вучасткі канюшыннай атавы і тым сабраць насеньне ня толькі для сябе, але і на продаж.

Сялянам Паўночнае Беларусі трудней атрымаць насеньне канюшыны з атавы. Яны павінны здабываць яго хаця дзеля свае гаспадаркі. Дзеля гэтага ім трэба застаўляць вучасткі перад першым скосам і выбіраць сярэднюю канюшыну. Яна расьце раўней і ня вылягае.

У Паўднёвай Беларусі сяляне могуць сеяць канюшыну ня толькі на сена, але разводзіць і насеньне на продаж. Гэта карысна, бо насенная канюшына яшчэ некалькі год ня будзе на рынку дзешавей 10 руб. за пуд.

Землятробы Паўночнае Беларусі (асабліва Меншчыны, Барысаўшчыны, Аршаншчыны і Магілеўшчыны) апрача вучастка старой канюшыны могуць пакідаць на насеньне таксама і атаву (пры раньнім першым скосе).

У гэтым годзе, калі канюшына з вясны за недастачай вільгаці расла дрэнна, Паўночная Беларусь можа застацца без свайго насеньня. Вось чаму трэба пасьпяшацца з першым скосам канюшыны. Можа здарыцца, што скора пойдуць дажджы і канюшынная атава дасьць і сена, і насеньне.

**Агроном А. К. Энгельгардт.**

## Як выробляць канюшынішча.

Канюшына, як і іншыя шматгадовыя травы, застаўляе пасьля сябе дзярніну. Калі вырабляць задзярнелае поле звычайным спосабам,



Карэньні канюшыны якія утвараюць дзёран.

напрыклад, узараць і далей разьбіваць скібы бараной, дык поле будзе мець вельмі нязграбны выгляд. Усюды ляжаць кавалкі дзёрну, якія канчаткова не разьбіты і нават на другі год яны застаюцца на полі, высыхаюць і ляжаць праз усё лета.

Пры вырабу канюшынішча хочуць—

1) Каб дзярніна ўпрэла і перагніла. Пасьля пераправаньня карэньні канюшыны хутка гніюць, раскладаюцца і на полі можна пасеяць іншыя расьліны.

2) Успульхніць задзярнелае поле з-пад канюшыны так, каб на ім можна было пасеяць збожжа і каб ральля добра прапускала паветра і ваду. Аднак, даводзіць разрыхленьне поля да дробнага парашку ня раім. Такое поле лёгка заплывае пасьля дажджу і пакрываецца скарынкаю, якая затрымоўвае ўсходы і не дазваляе паветру і вадзе праходзіць у зямлю.



Плуг, які дае найлепшае ворыва: ён перш зрэзвае тонкі слой дзёрна і скідвае яго ў баразну, а другім (задні̇м) корпусам засыпае дзёран.

3) Дзярніна павінна добра перапрэць, каб карэньні згнілі на гной; ён (гной) паляпшае якасьці поля і дае пажыўныя сокі наступным расьлінам.

Лепш пераправае дзёран тады, калі ён не высыхае, а вада і паветра могуць увесь час праходзіць у яго. Гэта магчыма пры мяккімі і нераспыленым полі.

Адным з спосабаў вырабу канюшынішча лічыцца абарот скібы. Пры гэтым поле арэцца шырокімі, нятоўстымі скібамі, якія не разрываюцца на кавалкі, а толькі абарачваюцца і кладуцца верхнім бокам дзярніны ўніз, да зямлі. Далей поле скародзіцца ўдоўж, каб не адварачваць дзёрну. Барана надзірае пульхнай зямлі, куды і сеюць яравую пшаніцу, лён ці авёс.

Пры такім вырабу канюшынішча пераправаньне дзярніны дасягаецца добра; але разьмякчэньне скібы і перагніваньне карэньняў ў дзёрне бывае дрэнным. Засыпаная дзярніна можа праляжаць адзін-два гады.

Больш скорае перагніваньне дзярніны бывае *пры лушчэньні, або пры мелкім узорваньні* (да 4-5 см.) Лушчэньнем здымаецца верхні слой дзярніны, які скора высыхае і замірае. Пры сухой пагодзе ўжо праз тыдзень можна араць поле на поўную глыбіню. Падсохшая дзярніна заворваецца і прысыпаецца зьверху мяккім слоем зямлі. Праз яго праходзіць паветра і вада, і перагніваньне дзярніны ідзе хутка. Такім чынам, лушчэньне і наступнае ўзорваньне на поўную глыбню даюць добры выраб поля.

Лушчэньне лепш рабіць 4-хлямешным плугам. Калі яго няма, дык можна карыстацца звычайным сялянскім плугам.

Але лепшым спосабам выробленьня канюшынішча зьяўляецца *культурнае ўзорваньне*. Яго рабіць скарэй і лягчэй *плугам з прадплужнікам, або дзёрназдымам* (плуг Сака, гл. мал. на стар. 5).

Да дышля такога плуга прымацоўваюць яшчэ маленькі плужок. Ён ідзе наперад нажа і галоўнага корпуса плуга, зрэзвае верхні слой дзёрну на 4-5 см. і скідвае яго ў баразну. У той час задні, галоўны корпус плуга засыпае гэту баразну пульхнай зямлёю.

Плуг з дзёрназдымам робіль адразу дзьве працы: *лушчэньне* і *глыбокую ворку*. Гэткая ворка завецца культурнай.



Дзьве пружыноўкі счэпляны разам.

Культурную ворку магчыма правесьці з дапамогай двух сялянскіх плугоў. Першы з іх здымае верхні слой дзёрну і скідвае яго ў баразну, а другі плуг засыпае гэты дзёран пульхнай зямлёю.

У апошні час на Маскопскай с-г. дасьледчай станцыі практыкуецца яшчэ адзін спосаб вырабу канюшынішча. Тут канюшынішча дзяруць перш пружыноўкаю да чорнага, і ўжо потым робіцца звычайная глыбокая ворка.

Гэты спосаб вырабу канюшынішча можна праводзіць у большасьці сялянскіх гаспадарак. Шмат якія беларускія гаспадаркі ўжо даўно і карыстаюцца ім.

Але якім-бы спосабам гаспадар не вырабляў сваё канюшынішча, трэба памятаць, што лепш вырабляць поле раней і абавязкова з восені (калі канюшынішча пойдзе пад засеў ярыны). Пад жыта-ж выраб канюшынішча трэба пачынаць зараз-жа пасьля скосу канюшыны.

Узаранае з восені канюшынішча на зіму не скародзяць. Зімою яно лепш прамерзьне, а вясною нап'ецца вады. Вясною поле абавязкова скародзяць і тым гатуюць яго да засеву ярыны.

**А. Берзін.**

# Аб часе ўборкі балотнай сенажаці *).

*(З прац Забалацкае балотнае гаспадаркі).*

Балотныя сенажаці, як даводзілася назіраць за імі ў межах быўшага Рагачоўскага павету, сяляне косяць позна; пры гэтым самі яны такі парадак тлумачаць тым, что хочуць мець больш сена.

Гэта чыста практычнае пытаньне было праверана ў 1924 годзе ў дасьледчай гаспадарцы на кавалку балота, якое было запушчана пад сенажаць бяз штучнага падсеву траў.

Скос сенажаці быў зроблен у 5 тэрмінаў, на пяці роўных кавалках; касіліся яны цераз 10 дзён адзін за другім.

Агульны характар травастою пры невялікім ліку добрых траў вызначыўся к канцу траўня. У гэты час былі ў поўным цьвеце казялец гостры (Ranunculus acer L), зязюлін цьвет (Lychnis Flos cuculi L), шчаўе і розныя лугавыя травы, як мятліца (яна выкідала мяцёлку); унізе травастою былі мурожніца чырвоная (Festuca rubra L), сітнік (Jncus L), маруна ўчэпістая (Galium Aparine L), званец (Alectorolophus), гарчакі (Polygonum L) і г. д.

К моманту першае касьбы (17 чэрвня) ў поўным цьвеце былі такія травы, як мятліца (Poa pratensis L), палявіца белая (Agrostis alba L), мурожніца чырвоная (Festuca rubra L) і інш. Яны былі значна прыметны, але прадаўжалі яшчэ панаваць казялец і зязюлін цьвет.

Сабранае сена ў гэты тэрмін на пагляд было зялёнае, тонкае, мяккае; ураджай у пераліку на дзесяціну быў блізак да 190 пуд.

Пры скосе другога кавалку (27 чэрвеня) такія травы, як мятліца і мурожніца значна парыжэлі; з іншых траў казялец атрутны, зязюлін цьвет адцьвятаюць, а на зьмену ім падняўся казялец вогнікавы (прышчапец) і званец; зрэдка прымешваюцца высокія палявыя сарнякі, як палявіца сабачая (Agrostis canina L) і каласаўнік жытавы (Bromus secalinus L).

У сабраным сене таксама ёсьць іншае зельле (living рознатраўе), але характар сена травяністы і больш-менш мяккі; сена мала розьніцца ад першага. Ураджай у пераліку на 1 дзес. больш 220 пуд. Гэта паказвае на прырост каромвае масы.

К часу скосу трэцяга кавалку сенажаці (8 ліпеня) усе памянёныя лугавыя травы амаль адкрасавалі; засталіся адны пустыя мяцёлкі; сакавітае веснавое іншае зельле таксама адцьвіло і загрубела. Пануюць казялец вогнікавы, званец, багата гарчакоў і асобныя сьцяблíны яшчэ маладых чальчаку звычайнага (Lythrum Salicaria L) і валер'янкі (Waleriana officinalis L). У сухім сене удзел добрых траў нязначны; іншае зельле, што цьвіло вясною, агрубела, а летняе—не дасягнула поўнага разьвіцьця. Якасьць сена ў параўнаньні з першымі ўкосамі зьніжаная; шмат саломістых траў і загрубелага зельля. Укос сена у пераліку на 1 дзес. ўжо менш 200 пуд.

У 4 пэрыод скосу (18 ліпеня) травастой вельмі пераблутан. Ад лепшых траў засталіся сьцяблíны. Рознае зельле таксама адцьвіло і асыпаецца, засьмечваючы сенажаць. Сярод агульнай масы травы выдзяляюцца цьвітучы чальчак звычайны, валер'янка і сабачая мята. Ураджай сена ў гэты час на вагу найбольшы і даходзіць да 235 пуд.

---

*) Досьледы вяліся на плошчы ў $^1/_4$ дзес., якая ў 1923 годзе была занята зімовым жытам па калі-фосфатнаму ўгнаеньню.




17 чэрвеня. Поўны цьвет мятліцы, мурожніцы, паляўіцы. Шмат к а з я л ь ц у і зязюлінага цьвету. Сена мяккае, зялёвае, тонкае.

27 чэрвеня. Лугавые травы (мятліца, мурожніца і г. д ) паржэлі. Есьць рознае зельле. Сена больш-менш мяккае, зялёнае.

8. ліпеня. Лугавыя травы і веснавое зельле адцьвілі і загрубелі. Зьяўляюцца тоўстыя сьцяблiны валяр'янкі. Сена горшае, саломістае.

18 ліпеня. Луговыя травы пасохлі. Ёсьць летняе зельле. Шмат тоўстых сьцяблін, сьпелых сарнін. Сена жорскае, саломістае, засьмечанае.

28 ліпеня. Лугавых траў няма. Рознае зельле адцьвіло і пасохла. Відаць сабачья мята, к а з я л е ц, скрыпень. Сена дзеравяністае, цьвярдое.

з дзес. Вага залежыць ад поўнага і магутнага разьвіцьця летніх зёлак разам з тоўстым і цяжка сохнучым сьцяблом сарнякоў. Сена складаецца з саломістага сьцябла траў, з зсохшага і загрубелага зельля з прымешкаю гарчакоў, пахучай сабачай мяты і інш. сьцяблін. *Сена жорсткае і з сарнінамі.*

Нарэшце, у часе апошняга скосу (28 ліпеня) пасохшыя травы зусім ня відны; рознае зельле ў большасьці адцьвіло, асыпалася і поўзасохла. Зялёны выгляд сенажаці часткаю наддае сабачая мята, казялец (лютык) і цьвятучы скрыпень балотны (Epilobium palustre). Ураджай сена цяпер зьнізіўся да 180 п. з дзес. Сена саломістае, цьвярдое і з выразна дзервяністымі сарнякамі.

Робім вынікі. Пачынаючы з моманту адзервяненьня лугавых траў і веснавога зельля (17 чэрвеня), якасьць сена чым далей, тым усе больш і больш падае, яго кармовая вартасьць павялічаецца да мо-

манту найбольшага разьвіцьця летняга align зельля (18 ліпеня) пазьней з адцьветам летняга зельля ураджайнасьць сенажаці значна падае; пры позным скосу (апошні тэрмін 28 ліпеня) адначасна з памяншэньнем ураджаю агрубеўшага сена, бывае на сенажаці і самасей сарнякоў.

Такім чынам, найбольшую *кармовую масу балотная сенажаць дае ў час разьвіцьця летняга зельля (15-20 ліпеня)*, але якасьць сена ў гэты час вельмі зьніжаецца і павінна дзеля гэтага зьбірацца *ў пэрыод поўнага цьвіценьня лугавых траў* (Poa, Agrostis) *і веснавога зельля.* Сена будзе хаця і менш вагою, але якасьць яго падымаецца.

*Позны-ж скос балотнай сенажаці зусім не патрэбны і не карысны.*

**А. І. Шохар.**

# Аб часе і спосабах заворваньня гною.

Пытаньне аб часе і спосабах заворваньня гною па даным дасьледчых станцый даўно лічыцца вырашаным і ясным.

Ня гледзячы на гэта, сярод нашых гаспадароў ёсьць шмат спрэчак па гэтым пытаньні. Адны кажуць, што неабходна, каб гной паляжаў у кучах, а потым яго трэба разьбіваць і заворваць. Другія кажуць, што лепш зараз-жа пасьля вывазкі гной разьбіць, але даць яму прасохнуць і тады заараць. Іншыя кажуць, што гной у кучах можа паляжаць, але разьбіўшы, яго трэба зараз-жа заворваць. Дасьледчыя станцыі радзяць разьбіваць гной у дзень вывазу і зараз-жа заворваць.

Разгледзім гэта пытаньне і паспрабуем растлумачыць пералічаныя спосабы заворваньня гною. У некалькіх словах скажам, што бывае з гноем да і пасьля заворваньня.

Гной дае расьлінам усе неабходныя дзеля ўзросту пажыўныя матарыі (азот, фосфар, калі і інш.) У 100 частках гною бывае вады 75 проц., азоту 0,5 проц., фосфару 0,25 проц. і калі 0,6 проц.

Саломістая частка гною пры згніваньні дае перагной, які робіць зямлю пульхнай і груткаватай (гэта вельмі цэнна дзеля ўзросту расьлін). З гноем-жа пранікаюць у глебу і мікробы (жывыя істоты). Яны сваім жыцьцём і працай падрыхтоўваюць пажыўныя сокі дзеля расьлін. Такім чынам, у гнаі ўвесь час ідзе жыцьцё мікробаў і зьмяняюцца нават складныя часткі гною. Бывае, што гэтыя зьмены ідуць у дрэнны бок і тады гной мае меншую вартасьць. Гной пры згніваньня мяняе і сваю афарбоўку. З буйнага саломістага ён робіцца дробным і зьмяншаецца ў аб'ёме. Калі ён ляжыць на паветры, то з яго выходзіць пара едкага паху—амоніяк, а з ім выходзіць у паветра і вельмі патрэбная частка гною—азот.

*Якія-ж зьмены бываюць у гнаі пры розных спосабах яго заворваньня?* Пакажам іх недахваты. Калі гной ляжыць доўга ў кучах, то бывае вялікая страта азоту праз вылучэньне ў паветра амоніяку. Акром таго, сырыя часткі гною ссыхаюцца, а гэта мяшае роўнаму раскіданьню гною па полі. Калі-ж здараецца дождж, то поле пад кучамі будзе вельмі ўгноеным і засеў збожжа будзе няроўны—кустамі. Калі гной разьбіваюць зараз-жа, але заворваюць пасьля высыханьня, то пры гэтым страта азоту зьмяншаецца: частку яго зямля можа ўцягнуць; але саломістай частцы гною і мікробам высыханьне гною значна пашкодзіць.

Застаецца яшчэ спосаб, які прапануюць нашы дасьледчыя станцыі. Пры гэтым спосабу гной разьбіваецца і заворваецца зараз-жа пасьля вывазу. Тут ня бывае страты азоту і зьнішчэньня мікробаў. Вось чаму і трэба разьбіваць і заворваць гной зараз-жа пасьля вывазу. Пры гэтым спосабу—1) ня траціцца цэнная частка гною—азот; 2) не зьмяншаецца саломістая частка гною, патрэбная для груткаватай пабудовы глебы (на сонцы саломісты гной скора перагарае); 3) ня гінуць мікробы, якія знаходзяцца ў гнаі—(на сонцы яны хутка гінуць); 4) засеў збожжа ня будзе стракатым на тых мясцох, дзе ляжалі гнаёвыя кучы.

Заворваць жа гной трэба так, каб яго ня было відаць на паверхні. Гной павінен быць укладзены роўна па дну баразны і прыкрыты скібаю зямлі. Для гэтага па баразьне за плугам ідзе падростак з граблямі і ўкладвае гной на дно баразны, зграбаючы яго паласкай каля баразны шырынёю на адну скібу плуга. Гэта лішняя праца аплачваецца роўным і добрым ураджаем.

Сяляне! заворвайце гной адразу пасьля вывазу ў поле. Укладвайце яго роўна па дну барозны.

А. Савельеў.

(Горкі, с.-г. І—т.)

# Палепшаны выраб познага сялянскага папару.

Яшчэ ня ўсе гаспадары перашлі да лепшага вырабу папару. Нядастача выпасу для жывёлы вельмі часта прымушае пасьвіць ея па папары. Калі гаспадарка поўнасьцю пяройдзе да шматпольля, дык ня будзе і сялянскага выпаснага папару. Але, дзе шматпольля няма, там скаціна пасецца на папаруі поле пад ім ня толькі не палепшаецца, але яшчэ горш папсуецца. Калі ўпару выпадзе дождж і зямля размякне, дык гэты папар лепш узараць, бо толькі пасьля воркі ў глебе пачынаецца жыцьцё і работа патрэбных для гаспадаркі мікробаў. Але калі зямля сухая і ворыва вышла з вялікімі камлыгамі, дык карысьці ад такога папару не чакай.



Трохкорпусны плуг для мелкага узорваньня (лучшэньня).

Вось і трэба лічыць за правіла, што *позны папар арэцца пасьля дажджу і зараз-жа скародзіцца.*

Яшчэ да гэтага часу шмат вёсак Усходняй Беларусі лічаць патрэбным пакідаць ворыва папару ляжаць не скароджаным. Гэта памылка, асабліва ў сухі год. Груды тады зусім перасыхаюць і іх барана ужо не разьбівае. Калі-ж дажджу няма, а час узорваньня папару падыходзіць, дык трэба тым ці іншым спосабам разрыхліць на 4-5 см. верхні слой поля.

Лепш усяго гэта зрабіць трох або чатырох-лямешным плугам (ёсьць на некоторых агрономічных пунктах і ў саўхозах). Але шмалямешнікі ўсё-ж рэдка сустракаюцца. Лепш кожнаму селяніну ў вясковага каваля нарабіць доўгіх жалезных зубоў (кляцоў), канцы іх раскляпаць у лапатачку і загнуць уперад. Барана з такімі зубамі добра ўзьдзірае папар на 4-5 см. А можна і плугам або сохою мелка ўзараць поле. Баяцца, што поле будзе мець няроўны выгляд ня варта; гэта папярэдняя праца. Дзеля чаго-ж яна робіцца?

Як толькі верхні слой папару разварушан, дык вада з зямлі больш не выпарваецца; яна затрымоўваецца перад сухім верхнім слоем. Парушаны слой поля такім парадкам зьяўляецца пакрышкаю, якая не дазваляе вадзе пераходзіць у паветра. Праз 7-10 дзён такі папар і без дажджду адсырэе на глыбіню ворыва, арэцца лёгка і бяз груд. Калі-жа часам пройдзе дождж, дык вада ўжо ня будзе зьбягаць па баразнах у балоты і рэкі, а ўся затрымаецца на полі і хутка прамочыць яго. *Такі палепшаны позны папар* на дасьледчым полі Цімірязеўскае с-г. Акадэміі даў добрыя вынікі. Ураджай жыта павялічыўся прыблізна на 15 проц. Кожны гаспадар павінен сам у гэтым упэўніцца хаця на невялічкім кавалку папару.

**М. Лайкоў.**

# Новы шасьціпалёвы севазварот.

Шмат розных севазваротаў ёсьць на Беларусі, але большая частка іх узята з расійскіх агрономічных кніжак і практыкі; толькі некаторыя з іх дапасаваны да нашых мясцовых умоў. Часьцей гэтыя севазвароты маюць адзін ухіл—зернавы або травяны ці тэхнічны і г. д. Між тым, селянін часта цікавіцца ўсімі патрэбнымі ў гаспадарцы расьлінамі, а добрага месца для іх у абраным севазвароце часта не знаходзіць. Узяць, напрыклад, вельмі добры васьміпалёвы севазварот— 1) папар, 2) жыта, 3) бульба, 4) ярына з падсевам канюшыны, 5) і 6) канюшына на скос, 7) жыта і 8) ярына. У гэтым севазвароце галоўныя расьліны маюць сваё адпаведнае месца, а калі гаспадар захоча пасеяць лён або гарох, ці выку на насеньне, дык добрага месца для гэтых расьлін не знаходзіцца. Разам з гэтым не хапае і гною, каб два разы на працягу 8-мі год угнойваць поле; такое-ж поля, якое-б радзіла пры ўгнаеньні толькі папару праз 8 год, на Беларусі вельмі мала. Пры недахваце гною трэба ўжываць лубін, а яму ў гэтым васьміпольлі таксама месца няма. Калі-ж гаспадарка знаходзіцца на хутары або ў прысёлку і мае агульны севазварот, дык у гэтым севазвароце таксама няма месца для выпасу жывёлы. Шмат ёсьць і іншых драбніц. Вось гэта і прымушае пашукаць новы севазварот, які-б адпавядаў патрэбам гаспадаркі і яе жывёлаводнаму напрамку. Па маёй думцы, можа параіць такое шасьціпольле:

| 1-е поле | 2-е поле | 3-е поле | 4-е поле | 5-е поле | 6-е поле |
|---|---|---|---|---|---|
| Папар угноены і заняты выкай. | Жыта з падсевам канюшыны. | Канюшына 1 году. | Канюшына 2 году. | Выпас для жывёлы. | Ярына, (пераважна лён) |
| Папар (лубін на ўгнаеньне) | Жыта з падсевам сэрадэлі. | Буракі па гною. | Бульба. | Гарох, выка і інш бабовыя. | Ярына (авёс, ячмень). |

У гэтым севазвароце, як бачым, кожная расьліна мае сваё адпаведнае месца. Пладазьмен тут такі: пасьля ўгноенага занятага папару сеецца жыта, а вясной да яго падсяваецца канюшына з цімафейкай. (Падсеў канюшыны пад жыта лепш удаецца, чым засеў яе па ярыне).

Канюшына два гады ідзе на скос, а на трэці год пападае пад выпас жывёлы. За тры гады канюшына робіць з поля добры дзярван, па якім вельмі карысна сеяць лён. Гэта частка пладазьмену зьяўляецца травяна-лёнавай і забясьпечвае ўраджай травы і лёну. Другая частка пладазьмену будзе такой: пасьля лёну сеецца лубін на ўгнаеньне, а па лубіну йдзе жыта з падсевам сэрадэлі. На трэці год возіцца гной і сеюцца буракі. (Буракі не баяцца сьвежага гною і добра родзяць). Пасьля буракоў другім каранём (таксама вельмі добра) садзіцца бульба. А калі поле два гады пабыло пад асыпнымі культурамі, як буракі і бульба, то яно добра вырабляецца і вельмі добра падыходзіць да бабовых расьлін (гарох, выка, пялюшка). На полі з-пад гароху ці іншых бабовых добра будзе расьці і ўсялякая ярына (пшаніца, ячмень, авёс і інш.). Такім парадкам, другая частка севазвароту зьяўляецца асыпна-бабовай, якая таксама адпавядае вымаганьням агрономічнай навукі.

Склаўшы абедзьве часткі пладазьмену разам, мы ўбачым 12-ці польны севазварот, у якім кожны год $^1/_6$ частка ўсёй зямлі ўгнойваецца гноем, а $^1/_{12}$ лубінам. Дзякуючы таму, што гной кладзецца часткаю пад жыта, а часткаю пад буракі, угнаеньне поля будзе роўнамерным; недахват гною пад жыта папаўняецца лубінам.

Магчыма было-б і завесьці такое 12-ціпольле, але драбіць зямлю на 12 кавалкаў нязручна і няма сэнсу. Лепш злучыць папар, жыта і ярыну двух пладазьменаў у адно месца і ўтварыць шасьціпольле. Гэта выгодна затым, што зямля дзеліцца толькі на 6 кавалкаў, а падругое, ўборка жыта і ярыны будзе ў аднэй зьмене (гэта зручней, чым пры раськіданых палетках).

Што дае селяніну гэткае шасьціпольле?

Калі ўзяць за прыклад гаспадарку з 6 дзесяцін пахаці, дык гаспадар будзе мець пад жытам 1 дзес. ($^1/_6$ частку пахаці), дзе на $^1/_2$ дзес. падсеяна сэрадэля; 1 дзес. канюшыны на скос, 1 дзес. бульбы і корняплодаў, 1 дзес. занятага папару, 1 дзес. ярыны—авёс, ячмень, зярновыя бабовыя (па $^1/_6$ частцы пахаці); $^1/_2$ дзес. лёну і $^1/_2$ дзес. выпасу (па $^1/_{12}$ частцы пахаці). Калі ўзяць сярэдні ўраджай з дзесяціны і пералічыць усё хаця-бы па тым цэнам, па якіх зроблен падлік гаспадаркі Хомкі Зеляпуга *), дык гаспадар будзе мець больш як па 120 руб. на дзесяціну. А трэба прыняць пад увагу, што пры гэтым пладазьмене ўраджаі ўсіх культур паступова будуць павышацца.

Трэба дадаць, што гэты севазварот зьяўляецца вельмі зручным і ў сэнсе павялічэньня ці памяншэньня плошчы пад рознымі культурамі. Напрыклад, калі месца пад аўсом ці ячменем займае $^1/_{12}$ частку пахаці, то можна ячмень або пшаніцу (ярку) пасеяць на бабовым полі, а пасьля іх сеяць авёс; а магчыма і так: частку аўса пасеяць на канюшынішчы, калі гаспадар ня хоча сеяць шмат лёну, а ячмень і інш. ярыну пасеяць пасьля бабовых. Праўда, у гэтым севазвароце вельмі малая плошча выпадае на выпас жывёлы ($^1/_{12}$ частка), але гэта і добра—месца для разгулы жывёлы хваціць, а дзеля падкорму маецца ў папару мешанка, а пасьля жніва жыта—сэрадэля. Пры гэтым пладазьмене скаціна вясной і летам мае падкорм (выка і сэрадэля), а на зіму ёсьць даволі канюшыны, буракоў і зярна бабовых. Маючы ў гаспадарцы такія запасы корму, можна скласьці і добрую кармавую норму для жывёлы. Горацкая Зоотэхнічная Дасьледчая Станцыя па-

*) Гл. „Плуг“ № 4 „Што дало шматпольле Хомку Зеляпуга“.

казала, што нельга скласьці кармавую норму для жывёлы, калі ў кармавыя дачы не ўваходзяць у належным ліку бялкі, ці зярно бабовых расьлін. Пры нястачы бялкоў корм не скарыстоўваецца поўна і неператраўленым пераходзіць у гной.

Вось, каб лепш выкарыстаць усе кармовыя запасы з карысьцю для жывёлы і для гаспадаркі, трэба ў гаспадарцы мець зярно бабовых расьлін. Дзеля гэтага і ў севазвароце вызначана асобнае поле пад гэтыя расьліны.

У сучасны момант завесьці гэты севазварот можна толькі на добрай, лёгкай суглінкавай глебе і ў гаспадарках, забясьпечаных збытам продуктаў жывёлагадоўлі. Перабудова-ж сялянскай гаспадаркі, як бачым, мае жывёлаводны ухіл, чаму гэты севазварот у будучыне можа вельмі прыгадзіцца ў сялянскай гаспадарцы.

М. Лайкоў.

# Значэньне палявога травасеву на Беларусі.

Мусіць нішто ў нашай гаспадарцы не зьяўляецца такім балючым, як пытаньне трохпалёўкі. Пры нашай даволі беднай прыродзе, шчыльнасьці жыхарства і слабай прамысловасьці недахваты трохпалёўкі адчуваюцца асабліва востра.

Наша поле патрабуе шмат гною, а гною ў нас заўсёды мала; загэтым ураджаі малыя і насельніцтву свайго хлеба не стае. Напр., у 1911-13 г. на Беларусь прывозілася кожны год больш 6 міліёнаў пуд. збожжа.

Запасы гною мы маем ад коняй і рагатай скаціны; лік-жа рагатай скаціны залежыць у першую чаргу ад запасу саломы і мякіны, бо сена даецца коням.

Між тым экономічныя ўмовы больш усяго спрыяюць разьвіцьцю на Беларусі продукцыйнае жывёлы і гэта затым, што

1) кошт на мяса і малочныя продукты, раўнуючы са збожжам, значна вышэйшы, і скарміць бульбу і зярно больш сходна, чым прадаваць іх;

2) наша палявая гаспадарка можа быць выгаднай пры значным павялічэньні гною, што таксама патрабуе павялічэньня жывёлагадоўлі;

3) у нас многа лішніх с-г. рабочых, якія не знаходзяць працы у сваёй гаспадарцы.

З гэтага бачым, што ўмовы для пашырэньня жывёлаводзтва і тэхнічных расьлін (як лён) на Беларусі надзвычайна спрыяючыя і таму з падсобных галін гаспадаркі яны павінны зрабіцца галоўнымі. Як-жа да гэтага прыйсьці, калі заліўных сенажацяй у нас дужа мала? Так, сялянскія гаспадаркі ўва ўсёй Віцебшчыне, паўночнай Магілеўшчыне і Менскім павеце мелі іх ня больш 2,5%. Акром гэтага, у Віцебшчыне, 2-х паўночных паветах Магілеўшчыны і Палесьсі было сухадолаў і балотнай сенажаці да 35%; у быўш. Менскім і Слуцкім паветах да 10%. Рэшта паветаў мелі па 15-18% сухадолаў.

Дадатку сенажацяй пасьля рэволюцыі было надта мала (дзесятыя долі дзесяціны на двор).

Вялікія абшары балот Беларусі пры мэліорацыі былі-б лепшай пашай, але на хуткае паляпшэньне балот у нас зараз не хапае фондаў.

Застаецца адно—здабыча сена і зялёнага корму на полі—палявым травасевам. У нашых умовах травасеў мусіць даваць ня толькі сена, але паляпшаць поле і ня шкодзіць засеву збожжа. Дзеля гэтага найлепшай травой зьяўляецца канюшына, выка і іншыя бабовыя.

1. Яны даюць ураджаі даволі вялікія (часта большыя, чым іншыя травы). Напрыклад, Горацкая дасьледчая станцыя сярэдні ўраджай сена ад бабовых за 3 гады (1920-23) мела 435 пуд. тады, а іншыя травы давалі 372 пуд.

2. Травы дадаюць ральлі лепшае складаньне і моцную пабудову грудак і ўзбагачваюць яе азотам.

3. На такой палепшанай зямлі магчыма пашырыць культуру лёну, які дагэтуль сеяўся дзеля свайго ўжытку, а на продаж толькі там, дзе „было шмат новых зямель“. З часам „навіны“ (пусташы) зьнішчацца і толькі травасеў можа памагчы прамысловаму лёнаводзтву, бо поле з-пад травы таксама прыгодна пад лён. Асабліва гэта добра выявілася на Віцебшчыне і паўднёвай Магілеўшчыне, дзе рынчнае лёнаводзтва ўзрасло разам з пашырэньнем травасеву. Дадаю проц. траў і лёну ў 1917 г.

| Павет. | % траў | % лёну | Павет. | % траў | % лёну |
|---|---|---|---|---|---|
| Віцебскі . | 9,6 | 6,6 | Горацкі . | 4,3 | 4,3 |
| Аршанскі . | 6,5 | 5,7 | Чаускі . | 3,4 | 3,5 |
| Магілёўскі | 6,1 | 4,9 | Полацкі . | 3,1 | 3,5 |
| Дрысенскі | 5,1 | 4,5 | Лепельскі | 2,1 | 2,5 |

4. Шмат якія бабовыя добра родзяць на пяскох.

5. Бабовыя павялічваюць сваю вартасьць скарыстаньнем папару пры падсеву іх у жыта ці ярыну (канюшына, выка) або, як пажніўныя культуры (праца Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі з сэрадэляй).

6. Чым больш маецца расьлін у гаспадарцы, тым лепш скарыстоўваецца гной, бо сьвежы гной скарыстоўваецца збожжам ня поўна. З пашырэньнем засеву лёну рабочая сіла ўлетку і асабліва ўзімку ідзе на апрацоўку лёну і на гадоўлю жывёлы. А зараз асабліва важна скарыстаньне с-г. рабочых у двара, бо на старане заробкаў няма (у гарадох шмат беспрацоўных) і селяніну застаецца быць гаспадаром.

Такім парадкам, травасеў дапамагае разьвіцьцю гаспадаркі на Беларусі і пераходу яе да поўнага карыстаньня прыродных і эканомічных умоў.

Сяляне гэта зразумелі і да гэтага даўно імкнуцца. Яшчэ ў 1887годзе травасеў быў у паўночнай Меншчыне, Горацкім і Гарадоцкім паветах. Далей да 1901 г. ўзрост травасеву быў значным у той-жа частцы Меншчыны, у паўночнай Магілеўшчыне (Горацкі, Аршанскі і Магілеўскі паветы) і зусім малым у астатніх паветах Віцебшчыны.

З 1901 г. найбольш значнае пашырэньне траў было ў Віцебшчыне і паўночнай Магілеўшчыне і зусім малое ў Меншчыне.

Узрост плошчы пад травамі ў сучаснай Беларусі ў дзесяцінах.

| | 1887 г. | 1901 г. | 1917 г. |
|---|---|---|---|
| Меншчына . . . . . | 5423 | 41290 | 41525 |
| Магілеўшчына . . . . | 2684 | 17184 | 52804 |
| Віцебшчына . . . . | 2324 | 6873 | 39373 |
| Па ўсёй Беларусі . . . | 10441 | 65317 | 133702 |

Разам з узростам травасеву пашыраецца і вываз па чыгункам малочных продуктаў

Чысты вываз (+) ці ўвоз (—) у тысячах пудой.

| | Масла кароў. | | Іншых малочн. продукт. акром салодкага малака. | |
|---|---|---|---|---|
| | 1900-02 г. | 1911-13 г. | 1900-02 г. | 1911-03 г. |
| Меншчына . . . . . | + 4,2 | + 2,3 | + 16,9 | — 2,8 |
| Магілеўшчына . . . . | + 3,6 | + 8,0 | + 6,8 | + 6.1 |
| Віцебшчына. . . . . | + 17,5 | + 41,1 | + 15,4 | + 4,7 |
| Усяго па Беларусі . . | +125,3 | + 58,4 | + 39,1 | + 8,0 |

Мы бачым, што з 1900 да 1913 году вываз павялічыўся ў Віцебшчыне і Могілеўшчыне і скараціўся ў Меншчыне.

У 1917 годзе раён травасеву ад 3% да 9% абмяжоўвае паўночна-заходнія паветы Меншчыны і паўночныя паветы Магілеўшчыны. У іншых паветах травасеў быў да 2%.

Затрымліваючым фактарам дзеля разьвіцьця травасеву бывае—

1.форма землякарыстаньня, а ў вёсцы агульны севазварот;

2. цяжкая здабыча насеньня;

3. неазнаёмленасьць сялян за спосабамі севу шмат якіх траў (канна, сэрадэля, палюшка);

4. малыя разьмеры гаспадаркі.

Але трэба лічыць, што часьцей гаспадар ня ўмее знайсьці месца пад траву. Вядома, што папар і няўдобіца могуць быць вельмі цікавым месцам для траў.

Гаспадарка нашага часу робіцца ўсё больш грашовай: яна шмат чаго купляе, а таму адчуваецца вялікая патрэба ў грашох. Лён-жа і продукты жывёлагадоўлі пасьля продажу і будуць здавальняць гаспадарку грашмі.

Н. Міханоўская.

# Праца пры скарыстаньні балота.

Дзікае балота мае вельмі дрэнную глебу для ўзросту травы. Лішняя вада і недахват пажыўных сокаў ня спрыяюць ім. Тут могуць жыць толькі дрэнныя балотныя травы.

Для таго, каб і на балоце расьлі добрыя травы, патрэбна шмат што зрабіць. Перш-на-перш трэба зьнізіць узровень грунтовых вод і ўжо пасьля гэтага прыступіць да выробленьня быўшага балота, угнаеньня і г. д. Агульных правіл для паляпшэньня балот няма, бо і балота бывае рознае.

Заходняя Эўропа, асабліва Нямеччына у даваенны час дасягнула значных вынікаў у скарыстаньні балот. У Нямеччыне ёсьць шмат дасьледчых палёў і балотных дасьледчых станцый. Працаю гэтых станцый і карыстаюцца немцы пры выробленьні балот пад засеў траў ці палявых расьлін. На балоце пачынаюць усялякую працу з асушкі.

Асушка робіцца двумя спосабамі: з балота спускаюць ваду, пакапаўшы канавы, або (другі спосаб)—капаюць перш канавы, па дну іх кладуць трубы і канавы зноў засыпаюць. Вада зьбягае по гэтым трубам, і балота высыхае. Капаючы канавы мяркуюць, каб вучасткі зямлі паміж канавамі мелі форму чатырохкутніка з плошчаю зямлі ў 100-150 мэтраў (50-75 саж) даўжыні і 20-25 мэтраў (10-12 саж.) шырыні. Бакавыя канавы капаюць адступіўшы на 5-6 мэтраў (2-3 сажні) ад галоўнай канавы. Гэта робіцца дзеля таго, каб можна было праехаць з аднаго вучастку на другі, ня робячы мастоў на канавах. Калі асушаюць балота трубамі, то закладваюць іх на глыбіню $1^{1}/_{2}$-2 мэтраў і засыпаюць да верху торфам. Глыбіня канаў і адлегласьць адной ад другой залежыць ад спосабу скарыстаньня балота пасьля асушкі. Калі думаюць зрабіць выган, то балота асушаюць глыбей, чым для сенажаці, а для палявых расьлін яшчэ глыбей, чым для выгану. Пры гэтым трэба памятаць, што лішняя асушка балот гэтак-жа шкодна.

Пры асушцы перш праводзяць галоўную канаву, якая накіравана ў рэчку або возера, а далей ужо капаюць бакавыя канавы. Галоўную канаву праводзяць па самаму нізкаму месцу. Здараецца, што калі праз балота цякла рэчка, але ўжо зарасла травою, то канаву трэба весьці па яе рэчышчу. Тут большы нахіл.

Капаньне канаў лепш расьцягнуць на два-тры гады. Балота будзе асядаць паступова.

Каб мець магчымасьць у сухі год падняць узровень грунтовых вод, на канавах робяць застаўкі. Яны ставяцца на галоўных і бакавых канавах. Застаўкі на галоўнай канаве падымаюць грунтовую ваду і ва ўсіх бакавых канавах.

Калі балота асушана, то нельга яшчэ сказаць, што ўжо ўсё зроблена для ўзросту расьлін. Асушанае балота необходна ўзараць і разроўніць, а часта і ўгноіць. Воранка спрые хутчэйшаму перагніваньню торфу і нішчыць дзікія балотныя травы, мох і г. д. Роўнаваньне асушанага балота патрэбна дзеля таго, каб мець аднолькавую вільгаць, бо лішня сырая зямля будзе шкодна расьлінам. Раўнуюць балотную глебу зрэзваньнем куп'я і бугаркоў.

Засеў траў або расьлін можна пачынаць толькі тады, калі верхні слой асушанага балота будзе выраблен і выраўнен.

**Г. Пятроўскі.**

# САДОУНІЦТВА

## Чарговая праца ў садзе.

Калі сад у зялёным убраньні, вельмі добра ацаніць вартасьць пладовага дрэва.

Нашы сады густа пасаджаны, ад чаго кароны хутка пачынаюць засыхаць, а гэта можна лепш прымеціць летняй парою. Неабходна шукаць прычыну, каб дрэвам у запушчаных садох даць абшар 8-11 мэтраў (12—16 аршын). Амаль ня менш паловы дрэў з такога погляду трэба будзе выкінуць. Гэта мерапрыемства павінна быць праведзена, інакш бацькаўскія сады (узросту 30-40 год) будуць зьнішчаны.



Лоўчыя паясы. А. пояс з саломы. Б. Пояс зьверху абцягнуты паперую.

Сухое гальлё можа быць прымечана летам і зазначана надрубкай, а рана вясною яно выпільваецца.

Як правіла, неабходна раз на працягу хаця-бы 3 год плошчу сада падняць. Дзе месца высокае і вада ня так блізка, араць можна і летам, як выпадае вольны час. Аднак лепшая пара дзеля араньня ў садзе застаецца восень або раньняя вясна. У воранай глебе менш шкоднікаў (таксама мышэй), што важна дзеля маладых садоў. Маладыя сады вымагаюць большага догляду. Калі прышчэпкі высаджаны у сухмень, то іх трэба добра паліваць (да 2-3 вёдз. вады пад корань).

Трэба сачыць і за поўным узростам карон. Непатрэбныя галінкі неабходна укарачваць, зьняўшы зялёныя вяршынкі і пакінуўшы толькі 5-7 лісткоў. Падкрэсьлім, што кароны прышчэп павінны гадавацца ня толькі ў школцы, але, галоўным чынам, у садзе (першыя 3-4 гады па закладаньні).

Лепей пакінуць у кароне 3 асноўных галіны, найбольш 5 (на болей) і гэта павінна быць зроблена у маладым садзе.

Што тычыцца шкоднікаў саду, то барацьбу з імі можна пачынаць загадзя ўвосень і вясной. Псуюць у нас яблыкі і менш ігрушы вусені матылёў (баярышніцы персьцянковага шоўкапраду, пядзяніцы), яблынавая моль, кветаед. Дзеля барацьбы са шкоднікамі агульныя мерапрыемствы—ўвосень (пасьля лістападу і вясною пакуль пучкі не распусьціліся) ачышчаюць кару, потым абмазваюць штамбы дрэў растворам вапны (1-1$^1/_2$ кіл. на вядро вады). Кароны апрыскваюць таксама вапенным растворам. Улетку і да познай восені або рана веснавой парою на штамбы ў вышыні 1 метра ($1^1/_2$ арш.) ад зямлі завязваюць лоўчыя паясы з саломы, куды зьбіраецца шмат шкоднікаў (гл. мал. стар. 17). Праз 1-2 тыдні паясы аглядаецца; шкоднікаў зьбіраюць у гліняную пасудзіну з газай і паляць. На лоўчыя паясы трэба зьвярнуць вялікую ўвагу. Напрыклад, кветкаед можа быць зусім пералоўлен такім чынам.

Наогул, барацьба са шкоднікамі садоў вымагае шмат ведаў і падрыхтоўкі. Але пры цярплівай працы патрэбнай, с.-г. асьветнасьці і нязначных сродках пры дзейнасьці с.-г. таварыства, барацьба са шкоднікамі садоў будзе пасьпешнай.

М. Б.

# Хваробы і лячэньне пладовых дрэў.

Вялікае зьнішчэньне садоў на Беларусі за апошнія гады тлумачыцца, з аднаго боку, адсутнасьцю патрэбнага догляду за садам, а з другога—слабымі ведамі садаводаў, асабліва сялян аб мерах барацьбы з тымі ці іншымі хваробамі ці шкоднікамі саду. У гэтым нарысе я хачу пералічыць галоўныя прычыны хвароб і тыя спосабы, якімі трэба лячыць дрэва ад той ці іншай хваробы.

Найбольш шкодныя хваробы пладовых дрэў выклікаюцца рознымі грыбкамі — чужаедамі. Яны нішчаць усе часткі дрэва (карэньні, лісьця, плады).

Возьмем перш губку ці трутавіка. Для барацьбы з гэтым грыбам патрэбен старанны догляд за корой і ранамі дрэў, каб папярэдзіць пападаньне сюды спор грыбкоў і ня даць ім прарасьці ў грыбню, бо грыбня зьнішчае драўніну. Дзеля гэтага трэба ўсе раны дрэва зараз-жа замазаць садовай замазкай ці ўмела пакласьці на раны латы здаровай кары (яе можна зьнімаць хаця-бы з рабіны). Калі-ж дрэва ўсё заражана трутавіком, дык трэба, як толькі зьявяцца плады гэтага грыба, зрэзаць іх, выскрабці заражоныя месцы, а рану замазаць садовай замазкай ці вапнай з глінаю; пры адсутнасьці замазкі ці вапны вымазаць дзёгцем.

Другі грыб выклікае хваробу „рак дрэва“. (Nectria detissima Tul). Гэты грыб, як і губка, вырастае на месцы, дзе кара была паранена. Грыб шкодзіць кары. Яна бурэе, засыхае і адвальваецца. Рана з кожным годам павялічваецца і калі распаўзецца на галіны і ствол, тады верхняя частка дрэва засыхае. Каб лячыць ад гэтай хваробы, трэба выразаць да здаровай кары і драўніны усе часткі дрэва, якія паражаны ракам, і закітаваць раны звычайнай смалою.

Часамі сустракаюцца на пладовых дрэвах грыбы *апенькі* (Agaricus melleus Tegan). Гэты, усім вядомы грыб, вельмі шкодны дзеля нашых садоў. Дрэва, паражонае апенькамі, вылячыць нельга. Абавязак садавода ў гэтым выпадку будзе ў тым, каб не дапусьціць апеняк на іншыя дрэвы. Дзеля гэтага пільна зьбіраюць шапкі апеняк і даволі далёка ад пня акопваюць хворае дрэва канаваю.

Але самымі шкоднымі ворагамі саду зьяўляюцца маленькія грыбы, якія выклікаюць *каросту яблык і ігруш*. Часам гэты грыбок паражае лісьця дрэў і маладыя галінкі, і дрэва пасьля такой хваробы можа паправіцца толькі праз некалькі год, а ўраджай пладоў пры гэтым грыбку ня мае ўжо ніякая вартасьці. Лісьця ад грыбка жаўцеюць рана і асыпаюцца. На пладах (яшчэ малых) зьяўляюцца чорненькія маленькія плямы.

Самым лепшым сродкам для барацьбы з гэтымі хваробамі саду зьяўляецца бардоская жыжка для апрыскваньня дрэў. Складаецца жыжка з 600 гр. ($1^1/_2$ф.) сіняга каменя, 400 гр. (1 фун.) гашанай вапны на $4^1/_2$ вядры вады. Лепш за ўсё карыстацца бардоскаю жыжкай заразжа пасьля прыгатаваньня.

У нашых садох дрэвы часта нішчацца ад дрэннай і густой пасадкі. Дрэва ад дрэва павінна быць ня меней 9-10 мэтраў (15-16 арш.). Гэтага трэба трымацца пры пасадцы саду.

Трэба памятаць, што пладовыя дрэвы, асабліва яблыны, вельмі чулы да глыбіні закапваньня ў зямлю. Калі дрэва засыпана зямлёю вышэй карнявой шыйкі і калі ня даць яму ратунку, дык яно гіне. Дрэвы, якія пасаджаны глыбока, трэба перасадзіць, адкапаўшы карэньні і пасадзіўшы іх на патрэбную глыбіню.

Пры пасадцы новага саду трэба ўважаць, каб і грунтовыя воды не падыходзілі блізка да паверхні зямлі. І гэта таму, што карэньні яблыны, як паказвае проф. Шыт, ідуць у зямлю на 1—$1^1/_2$ мэтры (каля 1,5 арш.). Пры сырой зямлі да іх ня можа даходзіць паветра, а махрачыкі дрэва ў такіх слаёх грунту без паветра ня могуць жыць. Дрэва хварэе. Плады драбнеюць і на іх нападаюць чэрві. Цікава, што спачатку да 15—20 год сад расьце вельмі добра, але потым рост спыняецца і дрэвы пачынаюць адміраць. Вось чаму, пры пасадцы саду трэба выбіраць такое месца, дзе ўзровень грунтовых вод знаходзіцца ня бліжэй $1^1/_2$ мэтр. (2 арш.) ад паверхні поля.

Далей скажам аб марозабіцьцю. Вынікае яно на штамбе дрэва звычайна ў другой палове зімы, калі бываюць сонечныя дні. У гэты час пад сонцам бывае цёпла, а ў цяні мароз. Пры гэткіх умовах кара на дрэвах з паднёвага боку награецца, а як надыходзе ноч, хутка замярзае. Вынікам гэтага зьяўляецца тое, што кара адстае ад дрэва і трэскаецца. Пад кару пападаюць грыбы-чужаеды.

Каб захаваць дрэва ад хваробы, неабходна ствалы дрэў і тоўстыя галіны абмазваць вапнай, абвязваць трасьнікам ці яловымі галінамі або саломай. Вапна (вапеннае малако) дапамагае тым, што пабеленае дрэва менш награваецца. Вапна-ж нішчыць на дрэвах лішаі, мох (Рытаў).

Пры лячэньні ран трэба рабіць парэзы кары каля паражоных месц, каб рана як найхутчэй зацягнулася.

**І. Крупень.**

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## Падкорм скаціны летам.

У нашых вёсках скаціна пасецца амаль усё лета на папары ці на дрэнным выгану. Вядома, што тут травы мала ці зусім няма і каровы бываюць галоднымі. Яны замест таго, каб папраўляцца ўлетку, худзеюць. Пасьля ацёлу такія каровы даюць 1—1$^1/_2$ літры (2-3 кварты) малака ў суткі, а то і менш.

Каб гэтага ня было, трэба і ўлетку карміць кароў. Летняе кармленьне кароў вельмі прыметна на самой скаціне. Для кароў сочная трава зьяўляецца самым лепшым кормам. І калі каровы выглядаюць добра ўлетку, то яны і зімою бываюць лепшымі. Гаспадаром вядома, што больш тлустая скаціна з восені лягчэй пераносіць зіму, чым худая.

Каровы, якіх кормяць ўлетку дрэнна, ня толькі даюць мала малака, але з восені рана і зусім запускаюцца. Запушчаная карова ня доіцца да лютага месяца, а то і далей. Некаторыя гаспадары кажуць, што гэта так і павінна быць; другія-ж, ведаючы, што каровы павінны даіцца ня менш 10 месяцаў у год, лічуць сваіх кароў дрэннымі. Яны езьдзяць на фэрмы і ў саўхозы, і купляюць пародзістых цялят. Плацяць за цялят вялікія грошы, а далей і добра іх кормяць.

Ці патрэбна ўсе гэта? Напэўна не. Дзеля нашых гаспадарак вельмі добра і наша мясцовая скаціна. Яна пры добрым утрыманьні можа даваць малака ня менш ад завадзкіх.

Вось загэтым тым гаспадаром, у якіх добрай пашы няма, абавязкова патрэбна сеяць мешанку (выка з аўсом) і канюшыну для падкорму скаціны.

Па выкавай мешанцы і канюшыне можна пасьвіць кароў навязваючы. Калі-ж скаціна пасецца на папары, то яе *абавязкова трэба падкармліваць.* Выкавую мешанку ці канюшыну трэба даваць два разы ў дзень. Ўлетку, калі кароў выганяюць напашу з раньня, лепш падкармліваць іх тады, калі яны прыдуць з поля. Добрай карове пры дрэнным выгану трэба даваць каля 3 пудоў; калі-ж паша трохі лепшая, то хваціць і 2.

Зялёную канюшыну ці выкавую мешанку абавязкова трэба даваць сьвежую, толькі скошаную. Ад вялай травы ў скаціны бывае ляксаваньне (пранос). Ня трэба даваць і вельмі мокрай травы, якую скасілі ў дождж. Мокрую траву лепш усяго абветрыць пад страхою.

Косяць канюшыну на падкормку тады, калі яна зацьвіла. Раней касіць шкода, бо конюшына яшчэ маладая. Калі-ж у канюшыны сохнуць галоўкі, то яе каровы ядуць горш, чым у пачатку красаваньня.

Выкавую мешанку у падкормку косяць тады, калі выка зацьвіла, а авёс толькі выкаласіўся. Раней гэтага часу мешанка бывае малой, а

пазьней вельмі саломістай (саломістую мешанку каровы таксама дрэнна ядуць). Старая мешанка мае меншую і спажыўную вартасьць.

Так падкармліваць скаціну гаспадар можа ўсе лета, пасеяўшы выкавую мешанку ў розныя тэрміны. Выка, якая зацьвітае, праз нейкі час будзе скормлена, а больш маладая падрасьце і будзе гатова для падкормкі.

Калі добра падкармліваць кароў летам, то яны будуць даваць і шмат малака. Апрача гэтага, удоі кароў будуць захаваны і на восень, калі малако каштуе дорага.

**С. Журык.**

(Горкі, с.-г. 1-т.)

# Вэтэрынарыя.

## Крывавая мача. (Крываўка. Лясная немач).

(*Піроплазмоз*).

Хвароба гэтая найчасьцей здараецца па тых месцах, дзе ёсьць шмат лесу (бору). Вынікае яна галоўным чынам з раньняе вясны, у красавіку - траўні, калі яшчэ халадна і калі чуць пачнуць ганяць жывёлу на пашу ў лес і па розных кустох.

Найчасьцей гэта немач нападае ў нас на кароў і выяўляецца тым, што хворыя пачынаюць мачыцца кроўю. Хоць па некаторых мясьцінах, як напр., у Рогачоўскім раёне Магілеўскае акругі, гэтая хвароба сустракаецца і на конях. Таксама яна можа здарыцца і на авечках.



Чырвонакроўнікі з чужаедамі.

Раней лічылі, што гэтая немач залежыць ад таго, што жывёла дзе-небудзь у лесе альбо ў кустох наядаецца смалянае пашы і што нібы-та смала раздражняе мачавы пухір, праз што адтуль і пачынае выцякаць кроў разам з мачою.

Цяпер напэўна дазнана, што прычына немачы не смала, а асаблівыя жывыя мікробы (малюсенькія тварэньні, чужаеды), якія пападаюць карове ў кроў, множацца там, адчаго жывёла пачынае хварэць (чужаед гэты губіць у яе чырвонакроўнікі і краска з крыві выходзіць разам з мачою). Вось чаму аб гэткай карове ў нас часта гавораць, што яна „краснаю пачала мачыцца“.

Між тым гэты чужаед-мікроб навука заве „піроплазмаю“, адгэтуль і хвароба ў навуцы завецца „піроплазмоз“.

Як-жа трапляе піроплазма у кроў карове?

А вельмі проста,—праз кляшчукоў.

Кожны пэўна, хто толькі назіраў за жывёлаю, бачыў на скуры ў кароў, у авечак, коняй, сабак і інш. такіх кляшчукоў, што сядзяць моцна ўпіўшыся на жывёле, калі яна варочаецца з лесу або з кустоў. Кляшчукі гэтыя сядзяць у каровы каля вымя, на мордзе, на павеках і вушох альбо на шыі, на ляжках і нават па ўсёй скуры, і цягнуць з яе кроў.

Калі карова хворая і „мочыцца краскаю“, а значыць мае ў сабе гэтага чужаеда („піроплазму“), тады разам з кроўю трапляе ў кляшчука і гэты чужаед. Кляшчук такі, калі сядзе зноў на здаровую карову, і ўвап'ецца ў яе, то перадасьць карове гэтага чужаеда, і карова заразіцца праз кляшчука і пачне хварэць крываўкаю.

Часамі здараецца, што крывавая мача зьявіцца ў каровы і зімою ў хлеве. Гэта бывае, калі ў хлеў уносіцца падсьцілка, ліст альбо сена—заражонае кляшчукамі. Пакуль кляшчукі на марозе, яны ня выяўляюць дзейнасьці, а у цёплым хлеве пачынаюць ажываць, прыстаюць да жывёлы і заражаюць яе.




1—Малады кляшчук, які вылупіўся з яечка. 2—Той самы кляшчук праз 4 тыдні 3—Кляшчук самка. 4—Кляшчук самец.

Першыя 5 дзён захварэўшая жывёла дрэнна сабе адувае: яна перастае есьці, стаіць смутная, пачынае трасьці яе трасца, гарачка падымается да 40 - 41° Ц.; жывёла слабее, ходзіць хістаючыся, перш бываюць запоры, а потым ляксуе. На 2-гі дзень хваробы зьяўляецца і галоўная адзнака—хворая пачынае мачыцца краскаю.

У лёгкіх выпадках праз 5 дзён мача сьвятлее, гарачка спадае і жывёла пачынае папраўляцца. Наадварот, у цяжкіх—яна праз 4-7 дзён прападае. Часамі хвароба зацягваецца і карова доўга мочыцца кроўю.

*Лякарства* пэўнага пакуль што няма яшчэ ад гэтай хваробы, бо трудна знайсьці такое зельле, якое-б забівала ў крыві толькі чужаеда і ня шкодзіла-б самой жывёле. Вось чаму лячэньне павінна быць накіравана так, каб дапамагаць жывёле самой перамагчы гэтую хваробу. Дзеля гэтага захварэўшую жывёлу ня трэба выганяць на пашу, а лепей трымаць у хляве ў поўным спакою; палепшыць яе кармленьне, даваць найлепшае сена, патроху аўсу і дробна нарэзанае морквы; уволю паіць чыстаю вадою, падбаць і аб чыстым паветры. Захварэўшую жывёлу паперш трэба змыць крэалінаваю вадою (10 лыжак крэаліны на паўвядра вады), ад якое кляшчукі, што сядзяць на скуры'

чумеюць і гінуць альбо змыць моцна салонаю вадою, калі крэалі-ны няма. У сярэдзіну хворай даюць лізол альбо крэалін, альбо карбоўку (бяруць чайную лыжку лякарства, паўшклянкі гарэлкі і 2 шклянкі вады—разьмяшаць і даваць па лыжцы раз 6 у дзень). Радзяць таксама сьвінцовы цукер (па паўчайнай лыжачке на вядро вады) у пойла, асабліва калі жывёла ляксуе. Пры затрыманьні калу—даюць глаўбэрскую соль па 2-3 лыжкі раз 2-3 на дзень. Некаторыя хваляць такое лякарства: робяць моцны адвар хіннае кары (паўтары ф. кары на 10 бутэляк вады), дадаюць 40,0 тоніну і 15,0 сялянога квасу і даюць хворай па-паўбутэлькі рана і ўвечар; замест хіннае кары робяць моцны адвар дубовае альбо вярбовае кары. Таксама робяць уколы і прышчэпкі, але гэта лячэньне вымагае адпаведных тэхнічных умоў і дзеля таго не пашырана.

## Як засьцерагчы жывёлу ад крываўкі.

З гэтаю хваробаю можна змагацца толькі супольнымі сіламі: вэтэрынары—праз лячэньне, а сяляне—належным доглядам за сваёю жывёлаю.

1. Вясною ня можна выпускаць кароў у лес, альбо пасьці па кустох, дзе ёсьць шмат кляшчукоў.
2. Наогул трэба асьцерагацца пасьвіць кароў па ўзьлесьсю і па балотных сенажацях.
3. Не падсьцілаць кароў замест саломы лясною подсьцілкаю з хвоі або з апаўшага лісту.
4. Старацца дрэнамі асушаць балотныя выганы.
5. Часьцей трэба аглядваць скаціну і здымаць з яе кляшчукоў.
6. Выганяючы на пашу, змазваць жывёлу мешанінаю з дзёгцю і моцнага адвару палыну.
7. Сьцерагчыся набываць жывёлу з такіх месц, дзе крываўка існуе, бо хворая жывёла носіць у сабе заразу да 1 году і калі яна пябойдзе на другое месца, то можа пазаражаць хляшчукоў, а тыя заразаць і кароў.
8. Там, дзе крываўка часта бывае, трэба ўважліва абараняць нованабытую жывёлу, бо яна хварэе цяжка і хутка падыхае ад гэтае хваробы.
9. Пастух павінен быць разважны, пісьменны, які мог бы прачытаць што-небудзь аб жывёле, і акуратны чалавек.

Вэтэрынар **І. Н. Серада.**

## Як карыстацца дзёгцем пры барацьбе з хваробамі курэй.

Заграніцаю для захаваньня здароўя птушкі карыстаюцца дзёгцем дзеля дэзынфэкцыі памяшканьняў птушак. Дзеля гэтага перш добра абмываюць сьцены птушніка лугам. Далей замазваюць дзёгцем усе шчыліны на сьценах і столі. Паверх дзёгцю птушнік выбельваюць вапнаю.

Паху дзёгцю ня зносяць вошы, кляшчукі і другія чужаеды, якія часта жывуць на птушках і разносяць заразу. Былі выпадкі, што нават халера курэй, ад якой гіне да 80—90%, зараз-жа спынялася. Даваньне некалькіх кропель дзёгцю ў ваду для піцьця птушкам гэтак-жа цэнна для іх здароўя.

# ПЧАЛЯРСТВА

## Раеньне пчол.

Раеньне пчол на здаровай пасецы пачынаецца праз паўтара-два месяцы пасьля выстаўкі і вясеньняга аблёту пчол. Приметай, па якой пазнаецца раеньне ў калодных вульлёх, будзе высыпка пчол па вечарам з калоды на *даўжнікі* і сьцены вульля, а ў рамовых—на прылётную дошку. Таксама прыметай раеньня зьяўляецца і няруплівы лёт пчол на работу.

Перад раеньнем сям'я закладвае матачныя соты, а матка кладзе ў іх яечкі[1]). Праз некалькі дзён пасьля закладаньня матачнікаў, сям'я адпускае першы рой „першак", з якім адыходзіць старая матка. Дзён праз 7-8 пасьля гэтага, калі сям'я моцная, можа адыйсьці і другі рой. Другія раі заўсёды адыходзяць з маладою маткай, якая перад адыходам з вульля „пяе". Сьпяваньне гэта бывае ад таго, што матка, якая вышла з кукончыка першай, пачынае бегаць па сотах і шукаць іншых матак, якія яшчэ ня вышлі, каб забіць іх. Пчолы-ж не даюць ёй зрабіць гэта і шчыльным клубочкам аблепліваюць другую матку і бароняць яе. Разгневаная першая матка пачынае сьпяваць працяжнымі гукамі „цю...цю...цю...", а матка, якую бароняць пчолы, з кукона адказвае кароткімі гукамі „ква... ква... ква...". Гэта сьпяваньне матак лёгка пачуць прылажыўшы вуха да лятка. Калі матка сьпявае ўвечары, то выхад другога рою трэба чакаць на заўтра рана. Іншы раз бывае, што дождж затрымоўвае адход першага рою, тады вышаўшая першай маладая матка забівае старую і першы рой ў гэтым разе адыходзіць з маладою маткай. Пасьля адыходу такога першага рою, адыходзіць другі, за ім трэці і г. д. Але гэта здараецца у гады з кепскім узяткам мёду. У такую пару пчолы зройваюцца, і раеньне гэта завецца „раёваю гарачкай".

Ніколі ня трэба даваць, каб з вульля выходзіла больш аднаго рою. У рамовым вульлі зрабіць гэта вельмі лёгка. Пасьля адыходу першага рою трэба агледзіць вулей і павырэзваць у ім усе матачнікі апрача аднаго; тады раеньне спыніцца. Але апрача вырэзваньня матачнікаў, раеньне можна спыніць і сваячасным пашырэньнем гнязда, дабуляючы ў яго новыя рамкі.

Лепшымі раямі лічацца раньнія *першакі* з маткамі мінулага году. Добры рой павінен важыць ня менш 2 кілёграмаў (5 фун.)

Лепшы час дзеля пасадкі роя—вечар (пакуль сонца над заходам). Садзяць рой заўсёды ў вулей, які навошчан штучнаю вашчынай. Дзе-

---

[1]) Ад часу кладкі яечка да выхаду маткі праходзіць 14 дзён. На шосты-жа дзень пасьля таго, як заложана ў матачны сот яечка, матачны чарвячок пчоламі запячатваецца (матачнік).

ля таго, каб пчолы не зьляцелі, іх трэба садзіць на рамку з маладою маткай, якую дзеля гэтага бяруць з іншага вульля. У такім выпадку зачыняць матку ў матачнік ня трэба. Вельмі добра новую сям'ю падкарміць сытою, якую ставяць у 1½ фунтовым шкляным слоіку. Слоік абваязваюць чыстай палатнянай анучай, пераварачваюць ўверх дном, і ставяць пяверх рамак.

Пасаджаны рой дружна бярэцца за працу, хутка адбудоўвае гняздо і яшчэ ў той жа год можа даць гаспадару да пуда мёду.

Каб новы рой хутка ўзмацаваўся, добра надзяліць яго рамкай—другой сьпелай чарвы з іншага вульля. Гэтакі рой працуе ня горш старога, які ня раіўся.

**І. Фэдарака.**



# КООПЭРАЦЫЯ

## Зварот грошы ў сялянскай гаспадарцы.

Усё часьцей і часьцей у апошнія часы раздаюцца гутаркі аб тым, ці ёсьць у сялянства вольныя грошы, ці прыметна ўжо зьбіраньне грашовых сродкаў.

Гэтае пытаньне таксама мае вялікую вартасьць і для с.-г. крэдытовай коопэрацыі. А гэта затым, што толькі на грунце таварнасьці сялянскай гаспадаркі, на грунце зьяўленьня ў вёсцы вольных сродкаў яна можа ўзмацавацца і вырасьці.

Сучасныя с.-г. крэдытовыя т-вы—гэта хутчэй дзяржаўныя скарбніцы, чым коопэрацыйныя организацыі. Звычайна іх роля складаецца з атрыманьня пазычкі ў Сельбанку і раздачы грошай. Так яно будзе да той пары, пакуль экономічная моц вёскі ня ўздымецца.

У даваенны час у крэдытовых таварыствах, у межах сучаснай Беларусі было ў звароце 17 міл. руб., з якіх 12 міл. руб. былі сялянскія ўклады. Гэтыя ўклады ўносіліся маленькімі часткамі, склядаючы сабою так званую „сберегательную пыль“.

Такія дробныя ўклады зьяўляюцца на мясцох толькі тады, калі ў сялянскай гаспадарцы будуць залатаны ўсе дзіркі і пачнецца зьбіраньне грошай. Гэты процэс мае вельмі захованыя формы. У значнай меры ён яшчэ няхутка праявіцца. Але мясцовыя працаўнікі—агрономы, коопэратары павінны своечасна яго выявіць і скіраваць сваю дзейнасьць на тое, каб гэта „сберегательная пыль“ асела на месцы, у вёсцы ў крэдытовым тав-ве; інакш яна пойдзе ў другі бок, пойдзе на ўзмацненьне прыватнага капіталу, пападзе ў рукі гандляра і ўцячэ з кола грашовай дапамогі сялянскай гаспадарцы.

Здаровае і нормальнае разьвіцьцё ўсяе сыстэмы с.-г. крэдыту таксама цалком залежыць ад таго, як яна патрапіць сваячасна разгарнуць працу па прыцягненьню да сябе дробных укладаў вёскі.

Дзяржава ніколі ня здолее здаволіць усіх патрэб сялянскай гаспадаркі. Тут трэба і ўзаемадапамога, і організацыя шырокіх укладных опэрацый праз крэдытовую коопэрацыю. А гэта можна зрабіць толькі тады, калі мы будзем добра ведаць зварот грошай у сялянскай гаспадарцы па кожнаму раёну пасэзонна.

На часе ўжо заняцца вывучэньнем і далейшым наглядам за рухам грошай у сялянскай гаспадарцы. Белсельбанкам ужо зроблен у гэтым кірунку пачатак. Варта, каб мясцовыя зямельныя працаўнікі, асабліва агрономы, адгукнуліся на гэту справу і ўважліва аднесьліся да яе.

Такое вывучэньне сялянскай гаспадаркі дапаможа організаваць прыток сялянскіх укладаў, якія можна скіраваць на ўзмацненьне мясцовай гаспадаркі.

**Сякера.**

# Аб вырабу сьметанковага масла.

Продаж малака дае большы даход, чым пераробка яго ў масла і сыр. Але продаж магчымы для сялян у ваколіцах вялікіх гарадоў і мястэчак. У глухіх-жа куткох і далёка ад гандлёвых пунктаў сялянства прымушана перарабляць малако ў масла і сыр.

Масла, якое зроблена з кіслай сьмятаны, мае меншую вартасьць і танна прадецца на рынку.

Тымчасам, у нас можна выраблять масла высокай якасьці і смаку.

Наша беларускае смятанковае масла цэніцца на рынку шмат вышэй у параўнаньні з Валагоцкім і Сібірскім.

Калі праглядзець увесь ход прыгатаваньня сялянскага ручнога масла, то можна ўпэўніцца, што палова малака ідзе ў глум.

Справа ў тым, што летам малако павінна захоўвацца ў халаднаватым месцы. Такіх-жа памяшканьняў наша сялянства часта на мае; загэтым малако хутка скісае і дае мала сьмятаны.

Каб даць раду на гэта, сялянства павінна з'організавацца ў малочныя арцелі, якім вельмі лёгка набываць сэпаратары (цэнтрафугі). Сэпаратар могуць набыць і 3—4 гаспадары разам, бо ёсьць сэпаратары, якія каштуюць усяго 70 руб. з выплатай у працягу 5 месяцаў.

Але лепей аб'яднацца ў вялікія арцелі, дзе розныя расходы на аднаго гаспадара будуць меншымі.

Мне давялося наглядаць справу выпрацоўкі масла з сьмятаны ў с.-г. арцелі „Новае жыцьце" Смалявіцкага раёну. У арцелі пры 9 гаспадарках ёсьць 20 дойных кароў. Ня гледзячы на тое, што многа малака ідзе на патрэбы сям'і, кожны тыдзень выробляецца каля пуду масла.

Масла вельмі добрае і ахвотна купляецца Менскімі прыватнымі крамамі (агулам па 67 кап. за фунт).

Сыбірскае сьметанковае масла прадаецца ў коопэратывах у раздроб на 64 к. за фунт.

Такім чынам, ад кожнай каровы можна мець у месяц 7—8 фунт. сьметанковага масла.

Такая лічба можа прынесьці вялікую карысьць гаспадарцы, ня лічачы ўжо перагону ад малака, які зварочваецца гаспадару і йдзе ў корм парасятам.

Пры сялянскім вырабу масла з кіслае сьмятаны нельга атрымаць столькі масла, колькі пры машынным способе ды і карысьці ад яго менш.

У некаторых сялян ёсьць па 4—5 дойных кароў, і малако часта марнуецца дарма. На гэта трэба зьвяруць увагу і рашуча ўзяцца за організацыю малочных арцеляй, якія хутка прынясуць вялікую карысьць гаспадару.

Арцель трэба організаваць з дапамогаю с.-г. коопэрацыі; яна паможа набыць усё абсталяваньне арцелі.

Як абходзіцца з сэпаратарам і наогул наладзіць справу, гэта пакажае адпаведны інструктар.

**К. Іоселевіч.**

# ЗЕМЛЕУСТРОЙСТВО

## Крестьянский двор.

При землеустройстве и обрезке крупных хозяйств количество земли, причитающейся по норме трудовому земледельческому хозяйству, зависит от числа и возраста лиц, составляющих двор. На определение размера налога также оказывает влияние состав двора. Поэтому важно выяснить, что представляет собою двор и каков его состав по Земельному Кодексу.

Двор—это семейно-трудовое об'единение лиц, совместно ведущих сельское хозяйство. Таким образом, он определяется тремя признаками—родством членов двора, их совместным трудом и общим хозяйством. Для всех членов двора обязательным является только третий признак, так как в состав двора могут входить и не родственники, например, принятые в него по браку или усыновлению, а также нетрудоспособные лица, например, дети, престарелые и больные. Все члены двора составляют, во всяком случае, одно хозяйство и по отношению к имуществу его представляют собою своеобразный семейно-трудовой коллектив.

Имущество двора состоит из двух частей, находящихся в различном правовом положении, а именно: из имущества общего пользования и имущества личного пользования членов двора.

Всякое имущество, имеющее своим назначением ведение сельского хозяйства, является имуществом общего пользования не зависимо от того, приобретено ли оно на общие средства двора, или на личные средства его членов. В состав общего имущества входит земля, постройки, живой и мертвый сельско-хозяйственный инвентарь, урожай, удобрение и доходы хозяйства.

К имуществу личного пользования относится одежда членов двора, а также неслужащее для ведения общего хозяйства имущество, приобретенное членом двора на лично им заработанные вне двора средства, например, велосипед, ружье, музыкальный инструмент и др. Имущество это принадлежит члену двора на праве собственности.

Право на имущество общего пользования принадлежит всем членам двора в полном составе. Каждый член двора в отдельности не имеет самостоятельного права на пользование определенною частью общего имущества. Последнее ближе всего подходит к правовому положению имущества в коммуне, члены которой совместно пользуются общим имуществом без определения долей их участия в этом пользовании. Поэтому, выходящий из состава двора его член теряет право на получение имущества общего пользования при вступлении в другой двор.

Состав двора определяется его наличными участниками, затем временно отсутствующими членами и, наконец, теми изменениями, которые происходят во дворе по разным причинам.

Членами двора прежде всего являются все его наличные участники, связанные родством, браком и приемом вне зависимости от пола, возраста и состояния здоровья.

Ушедшие на трудовые заработки, под которыми разумеется работа по найму в качестве рабочего или служащего, остаются в составе двора, если со времени ухода их не прошло двухсевооборотного срока, а при отсутствии правильного севооборота—шести лет. Лица, пробывшие на трудовых заработках без перерыва сверх означеного срока, признаются выбывшим из состава двора, если все это время они не оказывали ему помощи ни трудом своим, ни средствами.

Члены двора, находящиеся на службе по мобилизации, а также на выборной советской или общественной службе, например, профсоюзной или кооперативной, числятся в составе двора, сколько бы времени они не отсутствовали. Равным образом не подлежат исключению из состава двора его члены, обучающиеся в учебном заведении и помещенные в лечебное заведение.

Выбывают из состава данного двора его члены, вступившие в другой двор, а равно образовавшие самостоятельное хозяйство путем семейного раздела, или устройства на новых местах в порядке переселения, так как по закону одно и тоже лицо не может быть членом двух дворов. Поэтому, напр., после вступления в новый двор оказываемая прежнему двору помощь трудом или средствами, не является основанием для сохранения в нем членства.

Состав двора увеличивается, если у кого-либо из членов его родится ребенок, а также в случае брака, примачества и приема во двор новых членов.

Под примачеством разумеется в Белоруссии основанное на браке вступление во двор мужчины со стороны.

От примачества следует отличать прием, который чаще всего бывает основан на усыновлении и совершается в случае недостатка в дворе работников. Например, одинокий старик или старуха, не имея сил на ведение хозяйства, принимают во двор на правах члена иногда семейного человека с детьми. Для приема во двор нового члена необходимо намерение двора принять постороннее лицо в свой состав на правах члена с целью постоянного участия в хозяйстве. Поэтому временное пребывание в дворе наемных рабочих, призреваемых и подопечных не устанавливает принадлежности к составу двора.

На увеличение состава двора путем брака или примачества не требуется получения чьего-либо разрешения. При увеличении же состава двора путем приема в него новых членов необходимо согласие всех достигших 18-ти летнего возраста членов двора, так как такой прием не принадлежит к числу естественных изменений в составе двора (рождение, брак и смерть), в тоже время задевает имущественные и земельные права его членов. Прием во двор нового члена, может быть оформлен составлением сторонами письменного акта, удостоверяющего самый факт приема. Означенный акт заносится в книгу сделок и договоров Райисполкома без оплаты гербовым сбором.

Лица, вступающие в новый двор, приобретают в нем право на имущество общего пользования, в том числе и землю и теряют это

право в дворе, из которого они вышли. Право на имущество личного пользования сохраняется за выходящим из состава двора.

Однако, если двор состоял из одного бессемейного лица и последнее вступило в другой двор, то оно не теряет права на свою землю и остальное имущество, так как здесь нет выхода из состава остающегося двора, а происходит об'единение двух дворов в один.

Если кодекс относится к семейным разделам, как к неизбежному злу, и ставит им различные ограничения, то наоборот об'единение дворов для образования коллектива с выходом из общества рекомендуется (ст. 118); образование более мощного двора из двух или нескольких в составе земельного общества признается допустимым.

Е. Вишневский.

# ВОПРОСЫ И ОТВЕТЫ

## (По делам земельным).

Вопрос **Горецкого Райисполкома.**

Зависит ли размер минимальной нормы по циркуляру № 17 от количества в дворе трудовых единиц?

Ответ 6.

Не зависит. Согласно пункта 9 циркуляра Народного Комиссарыята Земледелия за № 17 минимальная норма составляет половину предельных норм, указанных в пункте 9. Следовательно в зависимости от района минимальная норма составит от 4,6 до 6,85 дес. для всех хозяйств с любым количеством у них трудовых сил.

Вопрос **т. Годеса из Слуцкого 030.**

Как поступить, если при обрезке крупного хозяйства в натуре не окажется того количества угодий, которое по вошедшему в законную силу решению Земельной Комиссии должно быть хозяйству оставлено.

Ответ 7.

Решение Земельной Комиссии обращается к исполнению только в том случае, если в результате обрезки данного хозяйства получится не менее минимальной нормы земли, причем вместо недостающих в хозяйстве угодий ему должны быть оставлены другие с применением замены, предусмотренной пунктом 4 циркуляра № 17.

Вопрос **крест. дер. Квасыніч, Слуцкога округа Траяна и Кроля.**

У нас одно хозяйство в 10 дес.; хотим поделиться, т. к. мы совершенно чужие. Ответьте, можем ли мы поделиться, а если нет, то обрежут ли наше хозяйство.

Ответ 8.

В исключительных случаях и в настоящее время может быть произведен раздел хозяйства с разрешения Райисполкома. Обрезка хозяйства, имеющего только 10 дес. земли не должна прозводиться.

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Лясныя пажары.

Сяляне Беларусі вельмі зацікаўлены ў барацьбе зляснымі пажарамі, як ў дзяржаўных лясох, так і ў лясох мясцовага значэньня. Больш як тры мільёны дзесяцін дзяржаўных лясоў Беларусі пры добрай гаспадарцы ў іх могуць даць такі даход, якога хваціць на палову ўсіх дзяржаўных расходаў. Таксама, чым менш будзе гінуць нашых лясоў ад пажару, тым большая плошча сьпелага лесу штогод пойдзе ў рубку, дасьць больш даходу дзяржаве і тым паменшыць сельска-гаспадарчы падатак сялянам.

Зразумела, што кожны сьвядомы селянін Беларусі павінен прымаць удзел у барацьбе з *ляснымі пажарамі*, павінен рабіць усё, каб пажараў гэтых ня было. Трэба вучыць сваіх суседзяў па вёсцы і працы ў лесе, як весьці барацьбу з пажарамі.

*Што трэба ведаць аб лясных пажарах?* Лясныя пажары можна падзяліць так:

1) *пажары падземныя*, калі гарыць торф (агонь пры гэтым праходзіць пад зямлёю па тарфяному пласту);

2) *пажары надземныя* ці бягучыя, калі гарыць мёртвы ці жывы насьціл глебы—сухая трава, сухое лісьце, ляжачыя галіны, сукі, хвораст, шчэпкі (у дрэў абвугліваецца толькі кара каля зямлі);

3) *пажары верхавінныя ці сплашныя*, пры якіх гараць самыя дрэвы.

Часьцей бывае бягучы пажар. Яго лепей і тушыць. Самыя зацяжныя і заўзятыя пажары—падземныя. Самыя страшныя—верхавінныя, ці сплашныя. Спосабы тушэньня кожнага пажару розныя.

*Прычын лясных пажараў шмат.* Найважнейшымі будуць:

1) непатушаныя пры ўходзе з лесу вогнішчы пастухоў, работнікаў лясных распрацовак або праяжджаючых праз лес людзей;

2) неасьцярожнае ці няўмелае ўжываньне агню ў гаспадарчых працах у лесе пры паленьні па лесасеках шчэпак, гальля і іншых рэштак ад лясных распрацовак, а часам і пры кепска пабудаваным смалакурэньні, вуглепаленьні і г. д.;

3) неасьцярожнае ўжываньне агню пры паляваньні, пры падкурываньні пчол, лоўлі рыбы, ракоў і інш.;

4) іскры паравозу;

5) перанос агню ветрам пры пажары ў вёсцы ці другім лесе;

6) ад маланкі;

7) злачыннай падпалкі.

Статыстыка лясных пажараў у нас і заграніцай паказвае, што найбольшы лік іх бывае ад неасьцярожнага ўжываньня ў лесе агню.

Так, напрыклад, для Баварыі за пэрыод у 17 год прычыны лясных пажараў у процантах размяркоўваюцца гэтак:

| Ад неасьцярожнага ўжываньня агню | Ад злачынных падпалак. | Ад паравікоў. | Ад маланкі. | Ад невядомае прычыны. |
|---|---|---|---|---|
| 73% | 17% | 6% | 1% | 3% |

У нас напэўна найбольшы процант пажараў бывае ад незагашаных вогнішчаў пастухоў.

Пара лясных пажараў бывае звычайна з лютага месяца да лістападу і асабліва з красавіка па жнівень. Самыя страшныя пажары выпадаюць ў травені і ліпені.

Прычына гэтаму зразумела. Першы час найбольшых пажараў выпадае на канец вясны (травень), калі ў лесе ўжо суха, а маладая сакавітая трава яшчэ ня вырасла. Другі час выпадае на сярэдзіну лета (ліпень), калі трава ў лесе ўжо засыхае і калі наогул там бывае найбольшая суш. Усё паказанае відаць з табліцы разьмеркаваньня лясных пажараў у быўшых дзяржаўных лясох Расіі за два гады ў пачатку бягучага стагодзьдзя.

| Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Травень | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Ліст..пад | Сьнежань |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 0,3% | 2% | 9,5% | 31% | 13,5% | 21% | 10,5% | 6% | 5,5% | 0,7% | |

Лік пажараў у ігластым лесе большы, чым у чорным; а ў сасновым большы, чым у яловым; пры вырубках лесу паасобнымі дрэвамі пажараў больш, чым пры сплашных; на пескавых глебах больш, чым на глiністых і чарназёмных. Пажары бываюць часьцей, калі ў лесе растуць травы, верас і інш. Найбольшы процант пажараў бывае ў маладым лесе да 30 год, меншы ў лесе пасьля 60 год і яшчэ меншы ў лясох з узростам ад 30 да 60 год.

Лепшымі спосабамі дзеля барацьбы з ляснымі пажарамі трэба лічыць тыя, якія папярэджваюць пажары. Дзеля гэтага трэба—

1. Не раскладаць у лесе агню, асабліва ў густым, маладняку і сярод сухой травы. У крайніх выпадках вогнішчы раскладваць сярод палян, блізка рэчак, вазёр. Пасьля скарыстаньня вогнішча, трэба яго загасіць ці заліць вадой.

2. Заўсёды да 1 траўня ачышчаць лесасекі ад шчэпак, гальля і рознага ламачча; лясныя пасадкі зімою ачышчаць ад павалу, сухастою, ветравалу і ветралому. Паліць ломы ў лесасеках трэба ў ціхую пагоду і пад наглядам сьвядомых людзей.

3. Пры працах не пакідаць у лесе агню ў дагараючай кучы ці тлеючых галавешак і пнёў без прыгляду чалавека. Толькі пасьля канчатковага заліваньня вадою ці канчатковага перагараньня кучы ў попел, можна яе пакінуць без прыгляду.

4. Пры паляваньні ўжываць толькі лямцовыя клакі (кляптухі).
5. Цягнікі на трубах паравікоў павінны мець спэцыяльныя сеткі.
6. Граніцы лесу, прасекі і дарогі ў лесе павінны быць чыстымі.
7. У ігластым лесе трэба заводзіць узьлескі з ліставых парод.
8. Весьці культурную працу сярод сялян, працуючых у лесе, асабліва сярод пастухоў і знаёміць іх са спосабамі барацьбы з ляснымі пажарамі.

Спосабы-жа барацьбы з пажара бываюць гэткія. Плошчы, якія захоплены падземнымі пажарамі, абкапваюць чым хутчэй канавамі. Канавы трэба капаць глыбінёю да цьвёрдай зямлі.

Невялікія бягучыя пажары можна тушыць сырымі галінамі і г. д. Калі бягучым пажарам захоплена значная плошча, то на даволі значнай адлегласьці ад пажарышча ачышчаюць паласу ад павалу, галінак, травы, кустоў і г. д. да мінэральнага пласту зямлі. Калі такая паласа зроблена ў час, то пажар можа спыніцца.

Пры значным і бягучым пажару замест такіх палос капаюць няглыбокія канавы, або самыя палосы робяць больш шырокімі.

Найбольш страшным зьяўляецца *сплашны пажар*. Дзеля тушэньня яго неабходна зьбіраць чым больш людзей. Адступіўшы даволі далёка ад агню, спілоўваюць дрэвы, ачышчаюць зямлю, капаюць канавы і г. д., каб утварыць шырокую мёртвую паласу і тым спыніць пажар.

Безумоўна, усё павінна быць скарыстана і ўжыта. Пры тушэньні пажараў павінен быць парадак, сьмеласьць і разуменьне усімі, наколькі цэнна гэта грамадзянская праца.

**Проф. С. П. Мельнік.**

# Да нашых падпісчыкаў, чытачоў і корэспадэнтаў.

— З № 6-м часопісі „Плуг“ усе падпісчыкі атрымоўваюць бяз кошту кнігу И. П. Скоморохова „*Что должен знать крестьянин о лесе*“.

— З гэтым-жа нумарам рассылаецца ўсім чытачом „Плуга“ анкета. Просьба яе запоўніць і укінуць у паштовую скрынку.

— Усе сэзоныя матэрыялы рэдакцыя просіць дасылаць, як можна раней.

— Пасьпяшайцеся зрабіць падпіску (на часопісь „Плуг“) на другую палову г. г. Падпіска прымаецца на кожнай пошце. Сялянам 20% скідкі.

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая № 71, НКЗ.

## ДРУКАРСКІЯ ПАМЫЛКІ.

У № 5. Стар. 31, 6 радок знізу надрукована: „вадою“.

Павінна быць: „атрутамі“.

# АГРОДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Зямельная палітыка на вёсцы.

Трэба сказаць, што яшчэ да гэтага часу ня ўсе нашы працаўнікі на вёсцы правільна тлумачаць сялянам нашу зямельную палітыку.

Падаю два-тры прыклады, якія даводзлілася бачыць пад час працы на вёсцы. Часта сялянам кажуць: „Наша палітыка на вёсцы складаецца ў тым, каб палепшыць сялянскую гаспадарку праз „трактарызацыю“, ужываньне машын, „рацыяналізацыю“ скарыстаньня рабочых рук у вёсцы, „інтэнсыфікацыю“ і г. д.“ Усё гэта добра. Ад трактарызацыі, рацыяналізацыі і інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі адмаўляцца ня трэба. Але калі на Мазыршчыне падыходзіш да селяніна і яго гаспадаркі, то бачыш, што шмат чаго новага ён яшчэ ня хутка прыменіць. І гэта не таму, што селянін ня хоча, а затым, што ці дрэнная зямля, ці агульнае становішча сялянскай гаспадаркі на Мазыршчыне не дазваляюць гэтага.

На адным сялянскім сходзе на гутарку дакладчыка (ён тлумачыў, што такое трактарызацыя) цікава адказаў адзін селянін: „Нам цяпер патрэбен такі трактар, які дае гной і на якім можна езьдзіць у горад і на рынак. На вашым-жа трактары гэтага ня можна рабіць“.

Нельга не згадзіцца з гэтым селянінам. Ня кожнай гаспадарцы можна раіць трактар і ня ўсюды яго можна ўжываць. На іншыя словы дакладчыка ніхто нічога ня мог адказаць, бо яны былі не зразумелы. Думаю, што ў глухой і мала сьвядомай вёсцы ніяк нельга гутарыць кніжнай мовай. Апрача таго, так тлумачыць селяніну зямельную палітыку ня трэба. Ужо хоць-бы затым, што гэта ня ёсьць зямельная палітыка, а толькі тэхнічнае паляпшэньне сельскай гаспадаркі.

Зямельная палітыка Савецкай улады ў сучасны момант складаецца з некалькіх галоўных пунктаў. У зьвязку з зямельнай нястачай і малазямельлем неабходна было скласьці зямельны фонд для надзелу безьзямельных сялян зямлёй. У сучасны момант гэта праводзіцца ў жыцьцё. Гэты фонд складаюць плошчы з пад лясоў, вучасткі дзяржаўнай маемасьці і зямлі ад абрэзак поўпрацоўных гаспадарак (значна менш). Такім чынам, утварыўся зямельны фонд, з якога і надзяляюць беднату. Апрача таго, праводзіцца і перасяленьне за межы Беларусі. Разам з гэтым прымаюцца ўсе крокі да ўпарадкаваньня самой сельскай гаспадаркі. Прымяняюцца дзе можна лепшыя і новыя спосабы гаспадараваньня на вёсцы. Пашыраюцца тыя спосабы, якія праверани ўжо досьледам і якія напэўна карысны (засеў траў, культурная жывёлагадоўля і інш.).

Наша пажаданьне, каб працаўнікі месц тлумачылі сялянам усе гэтыя пытаньні, ня ўжываючы незразумелых для селяніна слоў.

Мы ведаем, што калі будзем гутарыць з селянінам на яго роднай мове, то ён хутчэй зразумее нас і тым хутчэй мы паможам яму падняць яго гаспадарку.

І. Ц.

# Парады агронома.

ПЫТАНЬНЕ 6. У мінулым годзе ў маёй гаспадарцы, а таксама і ў суседзяў на жыта напала іржа, дзякуючы чаму зярняты ня высьпеўшы пазасыхалі, а ў некаторых месцах жыта нават палягло, хаця было ня вельмі густое і буйное. Просім парадзіць, што трэба зрабіць каб пазбавіцца *іржы* ў гэтым годзе. Жыта было пасеена пад лесам.
*Алесь Мялешка.*

АДКАЗ. Калі іржа зьявіцца, то ўжо нельга дапамагчы. Супроць яе барацьбу належыць распачынаць раней. Дзеля гэтага не падсьцілаць скаціну іржавай саломаю; калі іншай рады няма, то такі гной не вазіць пад жыта ці пад іншае збожжа, а найлепш пад бульбу, корняплоды, гародніну і г. д. Таксама добра дапамагае асушка поля, калі яно вільготнае, вапнаваньне, фосфарнае ўгнаеньне і галоўным чынам глыбокае ўзворваньне поля і радковы засеў.

Іржа нападае на збожжа з кустоў барбарысу, якія трэба выцерабіць, калі яны блізка пры полі.

ПЫТАНЬНЕ 7. Мой сусед, які быў у Нямеччыне ў палоне, раіць мне зрываць цьвет з бульбы, што павялічвае ўраджай. Ці праўда гэта? *Кастусь Грынцэвіч.*

АДКАЗ. Абрываньне цьвету бульбы карысна, асабліва ў тых сартоў бульбы, якія маюць багата цьвету і пладаносяць. Бульба без карысьці траціць сокі на цьвяты, а пасьля на плод.

ПЫТАНЬНЕ 8. Я чуў ад агронома, што можна павялічыць ураджай сежанаці і якасьць травы падсевам культурных траў. Парадзьце, калі і як гэта можна зрабіць, колькі і якіх траў падсяваць. *Максім Апанасік.*

АДКАЗ. Падсяваць травы на сенажаці можна зараз пасьля сабраньня сена з першага пакосу. Дзеля гэтага сенажаць уперад трэба пабаранаваць звычайнай бараной, а калі ёсьць, то яшчэ лепш лугавой бараною (можна пазычыць на агрономічным вучастку). Далей трэба пасеяць мешанку траў і сенажаць прывальцаваць.

Дзеля падсеву ўжываюць розныя мешанкі траў, але яны павінны быць так падабраны, каб у іх былі высокія і нізкія травы і розныя канюшыны. Найбольш простай будзе такая мешанка:

| | |
|---|---|
| Канюшыны чырвонай . | 11 фунт. на дзесяціну. |
| „ швэцкай . | 27 „ „ „ |
| Цімафейкі . . . | 10 „ „ „ |
| Райграсу ангельскага . | 22 „ „ „ |
| Усяго | 2 п. 30 фунт. (44 кіл.) [1]). |

Калі травастой даволі густы, падсеў паменшыць напалову. Падсеў пасьля скосу бывае лепш, чым ўвосень ці вясною.

ПЫТАНЬНЕ 9. На маёй сенажаці ёсьць шмат пустазельля. Парадзьце, як яго зьнішчыць А. П.

АДКАЗ. Каб зьнішчыць пустазельле на сенажаці, апрача вясеньняга і асеньняга баранаваньня мае вялікае значэньне скос сенажаці да таго часу, пакуль пустазельле не дало насеньня, інакш яно зноў высееца на сенажаці. Калі гэтак рабіць год 3 ці 4, то пустезельля значна паменшыцца. Адначасна трэба падсеяць добрых траў.

---

1) Лічбы ўзяты з практыкі Сабешынскай с.-г. школы.

ПЫТАНЬНЕ 10. Тыдзень таму назад градам зьнішчыла дашчэнту жыта, а таксама пашкодзіла ярыну. Парадзьце, як найлепш скарыстаць зямлю пасьля жыта. Страхоўку я атрымаю. *Міхась Радзюк.*

АДКАЗ. У гэтым выпадку яшчэ ня позна будзе пасеяць грэчку, а калі маеце скаціну, то варта было-б пасеяць турнэпс (рэпа). Турнэпс (адзін з корняплодаў) вельмі хутка (у $2^1/_2$-3 месяцы) вырастае. Можна частку поля засеяць мешанкаю выкі з аўсом ці ячменам на корм жывёле альбо лубінам на зялёнае ўгнаеньне пад бульбу наступнага году.

У. Даведчык.

# Абавязкі агронома на раёне і ўмовы працы.

Часта кажуць, што агроном мае 100 абавязкаў, але калі прыглядзіцца, дык можна і больш налічыць.

Перш агроном павінін быць грамадзкім працаўніком у жыцьці вёскі, а адсюль і шмат абавязкаў. Агроном павінен быць палярводам 1, садаводам 2, гароднікам 3, лугаводам 4, жывёлаводам 5, пчалярom 6, коопэратарам 7, у спажывецкай коопэрацыі ўпоўнаважанным 8, агроном—старшыня рады с-г. коопэрацыі 9, сябра комісіі па абсьледаваньню засеваў 10, раёным статыстым 11, намесьнік старшыні с-г. рады 12, сябра комісіі па рэгістраваньню завадзкіх коняй 13, сябра комісіі па вылучэньню лясоў мясцовага значэньня 14), сябра комісіі па ўпарадкаваньню раёну 15), сябра камісіі па абрэзцы поўпрацоўных гаспадарак 16, дакладчык на зьезьдзе сельсаветаў 17, пляновай конфэрэнцыі 19, агроном—лектар на маёўцы сяброў саюзу 19, лектар у сямёхгадовай школе 20, там-жа кіраўнік і організатар пладовай школкі 21, кіраўнік і лектар с-г. курсаў у раёне 22, кіраўнік і організатар с-г. гурткоў 23, організатар севазваротаў у вёсках 24. організатар меліорацыйных таварыстваў 25, малочных артэляй 26, удзельнік усялякіх кампаній, як „Дзень лесу", ачыстка насеньня і інш. 27, агроном—дасьледчык раёну 28, удзельнік працы ЛКСМ 29, працаўнік саюзу 30, ён пашырае с-г. літаратуру 31, піша ў газэту 32, і г. д. Само сабою зразумела, што ёсьць канцылярская праца 33, справаздачы 34, разьезды 35 і г. д., і г. д.

Усяго не пералічышь, бо праца хоць падзівіся. Няма калі пачытаць, адпачыць. Напрыклад, у сакавіку працаваў на вёсцы 26 дзён і толькі 5 дзён па канцелярыі і ўхаце; у красавіку ў дарозе 27 дзён і 3 дні ў канцэлярыі і дома.

*А ўмовы працы?* Конь адзін: калі паехаў памоцнік, то агроном ідзе пяшком, і наадварот, калі едзе агроном, то ідзе пяшком памоцнік. У дарозе трэба яшчэ і аўса купіць за свае грошы; таксама каваць каня, паправіць колы, хамут і г. д. (гэта не прадбачана ў каштарысе). А трэба-ж агроному і газэту выпісаць.

Такім чынам, застаецца 20-25 руб. Тут і кватэра і дровы, і інш. Прыдзеш да хаты і ня ведаеш, што рабіць: ці за паперы брацца, ці ісьці купляць бульбу, калоць дровы, ці каня даглядаць. А тут жонка часта крыку наробіць, што яна галодная сядзіць і далей жыць з дзяцьмі так ня можа. Умовы працы пакуль што дрэнныя.

Трэба ўжо раз назаўсёды паставіць агронома ў чалавечыя умовы працы*). П. С.

*) Рэд. Артыкул быў паданы да № 5 часопісі, калі яшчэ пэнсія агронома на вучастку была 31 руб.

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Аб працы селяніна-дасьледчыка Язэпа Мароза.

*(Барысаўская акруга, Лепельскі раён).*

Цяпер няма спрэчкі, што навуку пасоўваюць наперад ня толькі спэцыялістыя-вучоныя, але і простыя людзі. Вялікая рэволюцыя адчыніла шырокія прасторы кожнаму, каб выявіць свае здольнасьці. І праўда, за час рэволюцыі зьявілася шмат дасьледчыкаў з працоўнае масы, але іх праца яшчэ не падлічана. А колькі шэранькіх сяля працуе над узростам с.-г. культуры. У нас, у Беларусі сялянская гаспадарка пакуль што паляпшаецца працай гэтых дасьледчыкаў, бо сталых досьледаў вучонымі не рабіліся.



Язэп Мароз Селянін-дасьледчык.

Сярод сялянскага досьледу асаблівае значэньне мае праца селяніна Язэпа Мароза. Язэп Мароз—сын прыгонных сялян. Бацька яго 33 гады быў садоўнікам у пана, а маці—добрым знаўцам пчалярства. Язэп яшчэ змалку пачаў памагаць бацьку ў садоўніцтве, а маці ў пчалярстве. Пасьля прыгону бацька Язэпа атрымаў $^1/_2$ дзес. надзелу ў мяст. Бачэйкаве, а ў 1863 годзе заарэндаваў фальварак „Фатынь“ з невячічкай плошчай пахаці (6-8 дзесяцін).

Пачаўшы самастойна гаспадарыць, сям'я Мароза занялася сваёй любімай працай—садаўніцтвам. На працягу 25 год сад даваў даволі значны даход і ў 1888 годзе з дапамогаю зямельнага банку Мароз

купляе Фатынь. З гэтага часу пачынаецца больш шырокая праца маладога гаспадара ў галіне садоўніцтва. Мароз аб усім хоча даведацца з кніжак, да чытаньня якіх у яго зьявілася ахвота яшчэ з маленства. Ён пачынае выпісваць розныя часопісі і кніжкі па садоўніцтву, гародніцтву, пчалярству і наогул па сельскай гаспадарцы (цяпер мае бібліотэку каля 1000 кніжак). Прачытаўшы цікавае ў кніжцы, або праведаўшы ад другіх, дз. Язэп імкецца ўсё гэта праверіць у сваёй гаспадарцы і ўпэўніцца, наколькі гэта падыходзіць да нашых умоў.



Пасека пчол Язэпа Мароза. (Вульлі яго сыстэмы з дуплянак).

Як вынік гэтых шуканьняў, зьявілася шырокае сортаспрабаваньне садовых дрэў, ягадных кустоў, рознай гародніны і палявых расьлін.

У пладовым садзе Мароза (плошча $8^3/_4$ дзес) вядуцца назіраньні за шмат якімі сартамі пладавых дрэў і ягадных кустоў з боку іх трываласьці пры нашай глебе, клімату і г. д. Цяпер пладовая школка Мароза (каля 1 дзес.) пашырае толькі праверанын сарты. Мароз з пэўнасьцю раіць і прадае такія сарты пладовых дрэў.

А) *Для прамысловых садоў.* 1) Антонаўка камянічка, 2) Штрэйфлінг, 3) Кальвіль дымчаты, 4) Чарнагуз, 5) Бабушкіна, 6) Ананас біржэніцкі, 7) Пэпінка літоўская, 8) Цітаўка і 9) Баравінка.

Б) *Для садоў любіцельскіх.* 1) Цукровае літоўскае, 2) Бель асеньняя (салодкая), 3) Суісьлепер, 4) Корабаўка (ранэтка), 5) Белы наліў, 6) Штэцынг чырвоны, 7) Антонаўка салодкая (Мароза), 8) Цітаўка салодкая і 9) Харламаўка.

Сярод ігруш Мароз вызначыў для Беларусі 1) Александраўку, 2) Мускатную, 3) Спасаўку, 4) Сапіжанку 5) Гліву, 6) Бязьзернятку, 7) Остзэйскую дулю, 8) Ільлінку, 9) Вінёўку і 10) Малагожатку.

Павяраючы старыя сарты ў умовах Беларусі, Мароз вывеў свой уласны сорт—*салодкую Антонаўку.*

Разам з сортаспрабаваньнем Мароз вядзе працу па формаваньні карон садовых дрэў. Тут Мароз уласным досьледам дашоў даўно да формаваньня карон з трох галін (замест пяці) пры двух ярусах (раней лічылі патрэбным тры). Гэта толькі цяпер пачынаюць высоўваць дасьледчыя станцыі Нямеччыны.

Сярод гародных расьлін Мароз вывеў свой сорт белакачаннай капусты. Ён быў выведзены пасьля 30-гадовага адбору лепшых качаноў.

Насеньне гэтай капусты купляюць нават гароднікі Саратаўскай губ. Вывеў Мароз і куставую фасолю.

Сярод палявых расьлін Мароз вядзе назіраньні за сартамі канюшыны, бульбы і корняплодаў. Вызначаліся такія сарты бульбы—Вольтман (ураджайны і не баіцца хвароб), Сьняжынка, Варшавячка (мясцовая назва), раньні ружовы і Юно. Сорт Мэркер, хаця і ўраджайны, але няпэўны. Сярод корняплодаў зьвяртае ўвагу Жоўтамясная бручка Грачова і кармавы бурак „Вільямс".

У палявой гаспадарцы дз. Язэп не заводзіць ніякага шаблоннага севазвароту, а выкарыстоўвае кожны кавалачак зямлі ў залежнасьці ад яе якасьці і патрэб гаспадаркі, захоўваючы пладазьмен. Свой севазварот Мароз называе „вольным".

У галіне пчалярства (спадчына ад маці) Мароз таксама зрабіў шмат. Вядзецца спроба парод пчол (мясцовая, італьянка, краінка). Заўважна, што прыліў крыві краінкі да мясцовай пароды значна паляпшае пасеку. Вельмі цікавы вулей Мароза. Гэта звычайная украінская дуплянка, да якой прыладжана рамка проф. Куланда. Вулей можна цалком разьбіраць, як і рамовы, але пчолы ў ім адчуваюць сябе, як у натуральным гнязьдзе (у дупле дрэва) (гл. мал. стар. 37). У час мёдазбору над вульлём надстаўляецца магазын з рамкамі, і пчолы носяць у яго мёд. Пры нястачы месца для кладкі матцы яечак, пад вулей падстаўляецца другая дуплянка і матка пераходзіць уніз (гл. малюн. стар. 38). Вулей Мароза зьяўляецца натуральным гняздом для пчол і захоўвае ўсе адзнакі рамовага вульля. Параўненьне продукцыі рамовага і Марозаўскага вульляў на працягу 5 год далі перавагу Марозаўскаму.

Вось кароткія рыскі каштоўнае працы Мароза. Цяпер сям'я Мароза (у ліку 25 асоб) зьяўляеецца радавай комунай. Сыны і ўнукі яшчэ больш разнастаяць характар працы Мароза. Цяпер у Фотыні ёсьць фотографія і майстэрня наглядных школьных прылад па садоўніцтву, пчалярству і г. д. Ужо шмат прыгатавана колекцый рознага насеньня, траў, шкоднікаў, чучал розных птушак і г. д. Гаспадарка „Фатынь", можна сказаць, зьяўляецца цэлай дасьледчай станцыяй *).

Язэп Мароз заслугоўвае пачэснага званьня *„гэроя працы"*, бо ўсё сваё жыцьцё ён працуе над узростам с.-г. культуры ў Беларусі. Зараз Язэп Мароз залічаны сябрам-корэспондэнтам Інбелкульту.

**М. Лайкоў.**

*) Інстытут Беларускай культуры дзеля поўнага высьвятленьня ўсіх дасягненьняў самародка—Мароза пасылае адмысловую навуковую экспэдыцыю.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

*Цыркуляр № 105.*

## Па лясному Кіраўніцтву.

### Аб зваленьні ад учоту лясного фонду дробных лясных вучасткаў да 1 дзес.

**Усім АКРЗА, Акруговым інспэктаром лясоў і лясьнічым.**

*(За 15/V 1925 году № 4 Б (21684).*

У дапаўненьне § § 4, 21 і 22 інструкцыі па вылучэньню лясоў мясцовага значэньня і па перадачы лясных вучасткаў у зямельны фонд ад 6/V-24 г. Наркамзем прапануе прыняць да кіраваньня наступнае:

1) Невялікія паасобныя лясныя вучасткі, знаходзячыяся сярод сялянскай пахаці і сенажаці, агульнаю плошчай на звыш 1 дзесяціны здымаюцца з учоту лясного фонду і пераходзяць у распараджэньне паасобных землякарыстацеляў, на землях якіх яны знаходзяцца, з правам карыстаньня дрэвам пад контролем і назіраньнем Сельсавету і Райвыканкомаў для здавальненьня ўласных патрэб без пераўступкі і продажу другім. У тым выпадку, калі запас драўніны на вучастку перавышае патрэбы гаспадаркі землякарыстацеля, на зямле якога знаходзіцца лес, і калі гаспадар хоча расчысьціць лясную плошчу пад поле ці сенажаць, зьлішкі дрэва на гэтым вучастку разьмяркоўваюцца сельсаветамі паміж бяднейшымі жыхарамі, маючымі патрэбу ў лясным матэрыялу.

Вучасткі каштоўныя плошчаю і менш 1 дзес. павінны перадавацца, як лясы мясцовага значэньня, на ўстаноўленых для гэтага падставах.

Пад каштоўнымі вучасткамі разумець тыя, на якіх будзе ня менш 200 будаўляных дрэў, пачынаючы ад 5 вяршкоў.

2) Паасобныя дрэвы на пахаці і сенажацях, не ўваходзячых у склад лясных дзялянак, не падлягаюць лясьніцтвам і таму апошнія ня могуць ні забараняць, ні дазваляць рубку такіх дрэў, і грамадзяне выкарыстоўваюць іх па свайму погляду. Калі такія дрэвы павінны застацца, як помнікі прыроды ў эстэтычных ці іншых мэтах, то яны падлягаюць ахове агульных устаноў улады; на той-ж̌а падставе падлягаюць ім і алеі, паркі, і дрэвы збоку дарог.

3) Быўшыя сялянскія лясы, якія вызначаны комісіямі ў лясы мясцовага значэньня, не павінны перадавацца саўхозам, а перадаюцца ў карыстаньне мясцовага насельніцтва.

Наркамзем **Прышчэпаў**. Начальнік Кіраўніцтва Лясамі **Скамарохаў**.

**Выданьне Наркомзема.**

Адк. рэд. Зьм. **Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі. А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*